ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 50 (2348)

16 снежня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.



Мінскі мастацкі ліцэй, пасвячэнне ў ліцэйсты. Медаль вучню ўручае рэктар Акадэміі мастацтваў Васіль ШАРАНГОВІЧ.

(Рэпартаж аб жыцці Мінскага мастацкага ліцэя "Жыві, Беларусь" змешчаны на 7-й стар.).

У ПЕРАКЛАДЗЕ НА МОВУ СУСЕДЗЯЎ

## У ПОЛЬШЧЫ НЕ ВЕДАЮЦЬ НАВАТ КАРАТКЕВІЧА

Беларуская літаратура ў Польшчы мае пэўную традыцыю яе перакладу і папулярызацыі. У пасляваенны перыяд сфармавалася група літаратараў, якія набліжалі творы беларускай літаратуры да польскага чытача. Да яе ветэранаў належаў Казімеж Анджэй Яворскі, рэдактар часопіса "Kamena", на старонках якога пераклады беларускай літаратуры з'яўляліся яшчэ ў даваенны перыяд. У Лодзі ўтварылася своеасаблівае і даволі актыўнае асяроддзе перакладчыкаў з беларускай мовы. Да яго належалі Тадэвуш Хрусцялеўскі, Ян Гушча, Мацей Юзаф Кананові́ч, Ігар Сікірыцкі. Спецыфіка так званай лодзінскай школы заключалася ў тым, што пераклады рабіліся непасрэдна і выключна з беларускага арыгінала, а не з рускіх адаптацый, як гэта часта практыкавалася раней і часам практыкуецца цяпер. Група гэтая гуртавалася вакол "Лодзінскага выдавецтва", якое ў 1973 годзе заключыла дамову з беларускім выдавецтвам "Мастацкая літаратура" з мэтай рэгулярнага выпуску твораў беларускіх пісьменнікаў.

Кола беларускіх аўтараў, якіх тлумачылі ў Польшчы, ахоплівае як класікаў, так і пісьменнікаў новага пакалення. На жаль, усё яшчэ застаецца амаль што невядомы палякам вялікі паэт беларускай зямлі Янка Купала. З усёй ягонай багатай творчасці ў сучаснай Польшчы выдадзены толькі тры томікі. Невялічкі зборнік вершаў "Дзень будзённы ўбогі..." (1962), кніга вершаў "А хто там ідзе" (1981), у якім змешчана амаль 100 твораў у выбары Т. Хрусцялеўскага, і "Выбраная паэзія" (1985, складальнік і аўтар прадмовы А.Баршчэўскі). Яшчэ менш шчаслівы лёс другога класіка беларускай літаратуры -- Якуба Коласа. Ягоныя творы нават не былі выдадзены ў Польшчы пасля 1956 года асобнымі зборнікамі. Асобна выйшлі толькі "Выбраныя вершы" ("Poezje wybrane", 1973) Максіма Багдановіча (кніга ўбачыла свет дзякуючы намаганням Яна Гушчы). Пераклады іншых аўтараў, якіх залічваюць да класікаў беларускай літаратуры, з'яўляліся эпізадычна ў розных выданнях. Да найбольш поўных з іх можна аднесці "Анталогію беларускай паэзіі" ("Antalogia poezje bialoruskiej", 1978), што ўключае па некалькі вершаў Я.Купалы, Я.Коласа, Я.Чачота, В.Дуніна-Марцінкевіча, П.Багрыма, А.Вярыгі-Дарэўскага, К.Каліноўскага, Ф.Багушэвіча, Я.Лучыны, Цёткі, А.Гаруна, К.Сваяка, З.Бядулі, Ц.Гартнага...

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ЛЕТАПІС ПРАЦЯГВАЕЦЦА

## ПАМЯЦЬ ДА ЗАПАТРАБАВАННЯ?

**Магчыма сярод тых нашых чытачоў, хто цікавіцца гісторыяй, гадоў сем--дзесяць назад не прайшла незаўважанай даволі шырока па тых часах абвешчаная акцыя беларускага энцыклапедычнага выдавецтва -- падрыхтоўка кніг "Памяць" ва ўсіх без выключэння раёнах Беларусі. Так меркавалася ўвекавечыць падзеі і імёны людзей, якія засталіся ў гісторыі данай мясціны, у памяці жыхароў. Стрыжнем жа кожнага раённага летапісу павінны былі стаць спісы мясцовых ураджэнцаў, якія загінулі ў грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнах. Ідэя выдавецкага марафона зыходзіла ад тагачаснага беларускага вышэйшага партыйнага кіраўніцтва. Таму, калі нядаўна, пасля ўсіх нашых грамадскіх пертрусаў, пачула, што летапіс плануецца прадоўжыць, здзівілася: няўжо сёння гэта некаму яшчэ патрэбна! А калі патрэбна, то як павінна выглядаць! Можа нас зноў чакае чарговы перадзел! Толькі чырвоныя і белыя памяняюцца месцамі! І хто сёння будзе вызначаць: што вартае памяці, а што падлягае забыццю! З такімі пытаннямі я і прыйшла да пісьменніка, аднаго з былых кіраўнікоў "Беларускай Энцыклапедыі" Алеся ПЕТРАШКЕВІЧА, які ўзначальвае арганізацыйны цэнтр па выданню гісторыка-дакументальных Хронік Памяці і які, дарэчы, гэтую справу калісьці і распачаў.**

*-- Алесь Лявонцьевіч, ці трэба ўсё ж такі сёння ўзнаўляць выданне, заснаванае калісьці з "падачы" ЦК КПБ?*

-- Я лічу, нельга ставіць так пытанне ў дачыненні да Хронік Памяці. Справа ў тым, што менавіта ў камуністычныя часы выданне і было забаронена. І калі б не наступныя палітычныя і грамадскія пераўтварэнні, магчыма, яно так і было б пахавана назаўсёды. Па рэкамендацыі Зімяніна кнігі забаранiў яшчэ Суслаў.

*-- Чым тады матывавалі забарону?*

-- А яны там у Маскве вельмі спужаліся, што беларусы падлічаць усе свае ахвяры. Справа ў тым, што напачатку кнігі "Памяць" планаваліся як своеасаблівы летапіс баявой славы Вялікай Айчыннай вайны, дзе будуць увекавечаны імёны не толькі генералаў і маршалаў, але і радавых, наогул усіх загінуўшых -- ад малых да старых. Менавіта так бачыў задачу Пётр Машэраў, калі прымалася рашэнне аб выданні.

Падрыхтавалі мы першы рукапіс па Шумілінскім раёне. Пры ўсім жаданні нашых мясцовых улад выдаваць яго Масква нам катэгарычна "не параіла". З шумілінскім рукапісам тадышні сакратар ЦК Кузьмін ездзіў да Зімяніна. Апошні сказаў, што вырашыць нічога не можа, але ён супраць выдання. Так і далажыў Суславу: кніжку выдаваць не трэба. Безумоўна, і сам Зімянін яе не чытаў, і Суславу не паказваў. Карацей, прырэзалі саму ідэю народнай памяці. Я так мяркую, што ў Маскве перапалохаліся, так бы мовіць, "беларускага сепаратызму". Ні ў адной з рэспублік такіх кніг не было. Нам так і сказалі: у нас Ленінград, Расія нічога не маюць, а вы захацелі сто трыццаць тамоў.

*-- Алесь Лявонцьевіч, ну а калі Кузьмін не павёз бы рукапіс у Маскву, можа, усё ціха-мірна і прайшло б?*

-- Сумняваюся. Тады без кантролю з цэнтра мы ў выдавецтве "Энцыклапедыя" нават невялічкую брашуру не маглі падрыхтаваць. Усе выдавецкія пазіцыі праглядаліся ў агітпропе ЦК КПСС. Да таго ж "па-брацку" камандавала намі і Вялікая Савецкая Энцыклапедыя. Здаецца, яны -- энцыклапедыя і мы -- энцыклапедыя, але яны энцыклапедыя старэйшага брата, а мы -- так сабе, тутэйшыя. Таму наіўна было б думаць, што ў тыя часы можна было выдаць 130 тамоў неўпрыкмет.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



**"ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ" Генадзя КІСЯЛЁВА — гэта аповяд пра Валерыя Урублеўскага, адважнага сына Беларусі, прыроджанага рэвалюцыянера, паплечніка Кастуся Каліноўскага, генерала Парыжскай камуны.**

(Нарыс "Чырвоны струмень свабоды", які будзе друкавацца з працягам у некалькіх нумарах, змешчаны на 6-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ*

## ПРАПАНОВЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА

**Шлях да аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі ляжыць праз стабілізацыю курсу беларускай валюты. Гэта пацвердзіў, выступаючы на 13-й сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч. Паводле яго слоў, праблема ў тым, што разліковы білет Нацыянальнага банка Беларусі сёння "слабаваты". Дадатковымі ўмовамі аб'яднання з'яўляецца ўстанаўленне аднолькавых цэн на сыравіну і энерганосьбіты, збліжэнне абменных курсаў грашовых адзінак дзвюх краін. 7 снежня, як заявіў С. Багданкевіч, ва ўрад Беларусі перададзены распрацаваныя Нацыянальным банкам асноўныя напрамкі грашова-крэдытнай палітыкі рэспублікі на 1994 год. Плануецца, у прыватнасці, ажыццявіць комплекс мер па ўмацаванню плацежаздольнасці беларускага рубля, па скарачэнню да канца года тэмпаў інфляцыі да 3--5 працэнтаў, па стабілізацыі беларускага рубляі і збліжэнню яго курсу з курсам расійскага рубля. С. Багданкевіч прапанаваў таксама абмеркаваць пытанне функцыяніравання разліковых білетаў Нацыянальнага банка аднэчасова з разглядам эканамічнай праграмы ўрада на 1994 год і прызнаць на пераходны перыяд беларускі рубель адзіным законным плацежным сродкам на тэрыторыі рэспублікі.**

*СУД І ГОНАР*

## М. СТАТКЕВІЧ ЗМАГАЕЦЦА

**У ваенным судзе Мінскага гарнізона пачала разглядацца справа па грамадзянскаму іску падпалкоўніка ў адстаўцы Мікалая Статкевіча, лідэра Беларускага згуртавання вайскоўцаў, да Міністэрства абароны і Мінскага вышэйшага ваеннага інжынернага вучылішча, адкуль ён быў звольнены за ўдзел у грамадска-палітычнай дзейнасці. Як мы ўжо паведамлялі, лідэра БЗВ М. Статкевіча звольнілі "за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра". Вядзе судовае пасяджэнне палкоўнік юстыцыі Аляксандр Гоцін.**

**Самае дзіўнае, вартае кнігі рэкордаў Гінеса, што будзе весціся сінхронны пераклад на рускую мову.**

*З ВІЛЬНІ*

## КЕПСКІЯ НАВІНЫ

**Таварыства беларускай культуры ў Вільні зноў засталося без памяшкання і адрасу. Тры аднапавярховыя дамкі, якія яно атрымала ад Віленскай гарадской рады ў 1990 годзе для стварэння Беларускага цэнтра, новым рашэннем гарадскіх улад перададзены амерыканскаму бізнесмену літоўскага паходжання пад будаўніцтва камерцыйнага цэнтра.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У ЛІДЗЕ ў 1995 годзе будзе збудаваны помнік ахвярам Арміі Краёвай, якая ваявала не толькі з фашыстамі. На яе сумленні масавыя карныя акцыі супраць беларускіх партызан, расстраляныя мірныя жыхары многіх вёсак Панямоння ўжо пасля нямецкай акупацыі.

НА ПАЧАТКУ 1994 года ў сталіцы адкрыецца інстытут прыватызацыі, які будзе рыхтаваць спецыялістаў у гэтай галіне для рэалізацыі праграмы прыватызацыі ў Беларусі. Заснавальнікі новай навучальнай установы -- Дзяржкаммаёмасць рэспублікі, цэнтр прыватызацыі з Варшавы і Міжнародны фонд Сораса.

І 128 СУМЕСНЫХ прадпрыемстваў зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце па знешнеэканамічных сувязях. Найбольшай актыўнасцю ў стварэнні СП у Беларусі вызначаюцца фірмы і арганізацыі Германіі. Пакуль закрыліся каля дзесятка СП, але спецыялісты сцвярджаюць, што працэс гэты будзе працягвацца.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ банк Рэспублікі Беларусь выпускае ў абарачэнне разліковы білет вартасцю 1 000 рублёў. На адным баку купюры -- від будынка прэзідыума Акадэміі навук Беларусі, на адваротным -- герб "Пагоня" ў арнаментальным афармленні.

ВЫКЛЮЧЫЦЬ Старшыню Савета Міністраў Вячаслава Кебіча са складу членаў Рэспубліканскай Рады ТБМ. Такое рашэнне прыняла мінская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Гэтыя "санкцыі" да нашага прэм'ера прымяняюцца за тое, што Старшыня Савета Міністраў Беларусі пры выкарыстанні службовых функцый амаль не карыстаецца беларускай мовай.

*РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ*

## ПЕРСПЕКТЫВА БЕЛАРУСКАГА КАСЦЁЛА

**У Баранавічах адбыўся трэці з"езд Беларускай каталіцкай Грамады -- культурна-асветніцкай грамадскай арганізацыі, якая займаецца распаўсюджваннем хрысціянскіх ідэй. Старшыня яе Фелікс Янушкевіч у сваёй справаздачы прааналізаваў дзейнасць Грамады за апошнія два гады. Член Рады Алесь Бяляцкі выступіў з кароткім гістарычным экскурсам, разважаннямі пра сучасны стан і перспектывы каталіцкага касцёла ў Беларусі.**

**З"езд унёс змены ў статут, зняўшы пункты аб беларусізацыі касцёла. Выклікана гэта, як было падкрэслена ўдзельнікамі форуму, тым, што фармулёўка "беларусізацыя касцёла" страціла актуальнасць пасляператварэння колішняй ускраіны савецкай імперыі ў беларускую нацыянальную дзяржаву. У той жа час адзначалася, што Грамада не бачыць іншых перспектыў касцёла ў рэспубліцы, як зрабіцца сапраўды беларускім.**

*НАТАТКІ З НАГОДЫ*

## ДЭПУТАТ А.ШУТ: "ДАРМАВЫ СЫР БЫВАЕ ТОЛЬКІ Ў ПАСТЦЫ"

Увесь час, калі слухаеш паважаных дэпутатаў з трыбуны і "ад мікрафона" ў зале пасяджэнняў сесіі Вярхоўнага Савета, пачынаеш нервавацца: здаецца, гучаць правільныя словы, гарачыя, натхнёныя; шукаюць разумныя людзі выйсце для кожнага з нас і для ўсёй рэспублікі. Але тым не менш чамусьці робіцца няёмка. Нават не таму, што паляпшэння жыцця няма. Да гэтага ўжо прывыклі. Турбуе нешта іншае. Дэбаты на трынаццатай сесіі ўвесь час абмяжоўваюцца непахісным -- дзе, у каго б яшчэ папрасіць, дзе што яшчэ ўрэзаць -- каму недаесці, каму пасядзець без святла, каму без ацяплення, каму лячыцца зараджанай вадой замест лякарстваў... І ўсё гэта нібы дзеля паляпшэння нашага жыцця. Ніколі не ставіцца галоўнае на сёння пытанне для кожнага з нас і ўсіх разам: як самім зарабіць грошы і на святло, і на цяпло, і на хлеб, і на лекі.

Сёння позірк беларускага ўрада поўнасцю скіраваны на ўсход. Але ці можна сур"ёзна верыць, што Расія стане рабіць Беларусі нейкія падарункі? За што? Яна сваіх людзей трымае ў чорным целе. Не выплачваецца па паўгода заработная плата шахцёрам, нафтавікам, ваенным, бо няма грошай. А беларусам даюць крэдыт. Значыць, нешта ўсё ж такі патрэбна і ад Беларусі. Не толькі за нашу талерантнасць. Але за што? Хацелася б, каб і гэтае пытанне прагучала з дэпутацкай трыбуны. І не толькі прагучала, але і атрымала адказ кампетэнтных асоб. Не верыцца сёння ў простую дабрачыннасць з боку дзяржавы, якая сама стаіць перад праблемай выжывання. Ці не атрымаецца так, што калі Беларусь нарэшце схамянецца, будзе позна, бо кантрольныя пакеты акцый беларускіх труба- і газаправодаў, чыгункі, ліній электраперадач, абаронных прадпрыемстваў будуць належаць расійскім банкам, прадпрымальнікам? Нярэдка чула меркаванне: за лепшае жыццё варта заплаціць і суверэнітэтам. Страшная думка. Але хто скажа, ці будзе тое жыццё лепшым? Спадзявацца на гэта, па меншай меры, наіўна: ніколі ні ў адной калоніі карэннае насельніцтва не раскашавала.

Зноў, каторы ўжо раз наш прэм"ер з"ездзіў за паратункам у Расію. На гэты раз на Валдай. Вярнуўся задаволены і горды: расійскі прэм"ер прыгалубіў, паабяцаў "падкінуць" чаго-небудзь. І вось ужо гучыць справаздача з трыбуны беларускага парламента: мы Расіі за нафту нічога не павінны. Але як, чаму? Можа ў аплату пайшлі Наваполацкі і Мазырскі нафтаперапрацоўчыя заводы, акцыі якіх згодна атрымаць аб"яднанне "Цюмень-нафта"? Таксама цікавая сітуацыя атрымліваецца і з газам. Расія дае тэхнічны крэдыт, каб пагасіць частку доўгу. Грошы расійскі банк пераводзіць непасрэдна расійскім газавікам. Нядрэнны варыянт для Расіі. Усё роўна трэба сваім людзям зарплату выдаваць, а так яшчэ і пэўны працэнт за крэдыт Беларусь заплаціць.

Здымаюць расіяне і таможны кантроль з 15-га снежня. Але зноў не за так. Пастаўлена ўмова: Беларусь павінна ўмацаваць польскую і літоўскую мяжу. Зразумела, Расія ж беражэ сваё дабро, так што пашчыруйце, беларусы. Ну і вянец усяму -- аб"яднанне грашовых сістэм, пра што палітычная заява, як сказаў Вячаслаў Кебіч, будзе зроблена яшчэ да новага года. З задавальненнем прэм"ер канстатаваў, што Барыс Ельцын таксама падтрымаў ідэю аб"яднання, каб "на прыкладзе Беларусі апрабіраваць усю гэту сістэму". Што ж, застаецца толькі падзякаваць Барысу Мікалаевічу за дабрыню.

Разам з тым цынічным і абразлівым назваў дэпутат А.Шут словы міністра фінансаў Расіі Б.Фёдарава, працытаваныя з газет "Комсомольская правда" і "Известия". Вось што кажа адзін з расійскіх кіраўнікоў: "З сусветнай гісторыі вядомы адносіны, пры якіх адна дзяржава, заўсёды дамінуючая, выдавала сваю валюту іншым калоніям альбо паўкалоніям". І далей: "А па-мойму, лепей ужо ставілі б пытанне аб уступленні ў Расійскую Федэрацыю, калі так ужо хочацца адзінай зоны". Як рэзюме той жа дэпутат Шут трапна заўважыў: "Чаму мы лемантуем два тыдні вакол прэзідэнта? Губернатар у нас будзе".

Увечары, уключыўшы тэлевізар, бачу на экране па каналу "Астанкіна" расказ пра А.Шохіна, які сярод іншага ў расійскім урадзе займаецца сувязямі з СНД. Гляджу і чую каментарый за кадрам: Шохін шмат ездзіць, працуе над стварэннем адзінай рублёвай зоны з краінамі СНД, каб абараніць фінансавыя інтарэсы Расійскай дзяржавы. Што ж, усё правільна, і Шохін сапраўды варты павагі сваіх суграмадзян. Вось толькі дзе нам узяць свайго Шохіна?

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

*УСЕНАРОДНАЕ ПРЫЗНАННЕ*



**Слава, усенароднае прызнанне, любоў прыйшлі да гэтага паэта праз дзесяцігоддзі пасля яго ранняй смерці ў 1917 годзе. Прыйшлі і засталіся навечна. Светлая, мяккая лірыка Максіма Багдановіча трывала ўвайшла ў духоўную скарбніцу беларускага народа.**

**"Зорка Венера", "Слуцкія ткачыхі", "Пагоня" -- гэтыя і многія іншыя вершы паэта любяць сёння і дарослыя, і юныя. Яго творы пакладзены на музыку і сталі яркімі самацветамі ў вянку нацыянальных мелодый.**

**НА ЗДЫМКУ: дом у вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна, дзе створаны музей паэта, 102-я гадавіна з дня нараджэння якога адзначаецца ў гэтыя дні.**

*КЛОПАТ АБ ДЗЕЦЯХ*

**Што было, то было. І тут, як кажуць, з песні слова не выкінеш: за савецкім часам, адпраўляючыся на працу, бацькі былі спакойныя за сваіх дзяцей дашкольнага ўзросту: за імі быў наладжаны добры догляд. Прыклад жа тут паказвала Беларусь: месцаў у дзіцячых садках і яслях хапала, як ні ў адной іншай рэспубліцы. Наведванне малымі гэтых дашкольных устаноў каштавала бацькам зусім мала або і зусім нічога. Многія прадпрыемствы рэспублікі мелі сады і яслі, а таму маглі ўтрымліваць дзяцей сваіх працаўнікоў і бясплатна.**

**Цяпер жа сітуацыя рэзка змянілася. Каб дзіця наведвала дашкольную ўстанову, бацькам трэба плаціць вялікія грошы, што многім не па кішэні. А прадпрыемствы і калгасы ўжо не ў стане ўтрымліваць дзіцячыя садкі.**

**А таму і сталі закрывацца ў рэспубліцы дашкольныя ўстановы, перадавацца і прадавацца розным недзяржаўным арганізацыям, часцей за ўсё -- гандлярам.**



**НА ЗДЫМКУ: дзіцячы сад у калгасе "Чырвоная зорка", што на Гродзеншчыне, -- адна з нямногіх дзіцячых дашкольных устаноў рэспублікі, дзе плата пакуль яшчэ абыходзіцца бацькам у чыста сімвалічную суму: 50 рублёў у месяц. Астатнюю частку выдаткаў бярэ на сябе гаспадарка.**

ЗДРАЎНІЦА НА БЕРАЗЕ ЧОРНАГА МОРА

# ЗАПРАШАЕ "БЕЛАЯ РУСЬ"






Нядаўна мы пазнаёмілі чытачоў на старонках нашай газеты з Домам-пансіянатам у Віцебску, які быў пабудаваны для адпачынку пажылых людзей. У пытанні аздараўлення беларусаў знойдзена агульнае паразуменне і паміж былымі рэспублікамі СССР. Прыкладам гэтаму можа служыць арэнда санаторыяў на тэрыторыі краін Балтыі А непадалёку ад Туапсэ, на беразе Чорнага мора, узведзены аздараўленчы комплекс на 500 месцаў, які атрымаў назву "Белая Русь". Размешчаны ён у маляўнічай мясцовасці, аснашчаны сучасным медыцынскім абсталяваннем. Адпачываць тут будуць беларускія сем'і, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.

У комплексе ёсць адна-, двухмесныя ўтульныя нумары, шэсць басейнаў, сауны, тэраса на 300 месцаў, бальнічна-інфармацыйны цэнтр, тры спартыўныя залы, кіназала, пошта, банк, аперытыў-бар і многае іншае. Побач з галоўным корпусам адчыніцца лагер для дзяцей.

Будавала санаторый, у якім будуць адпачываць беларускія сем'і, Славенска-швейцарская фірма "СМЕЛТ ІНТАГ" усяго два з палавінай гады.

НА ЗДЫМКАХ: аздараўленчы комплекс "Белая Русь".

Фота А. НІКАЛАЕВА.

## ЛІТВА ХОЧА БЫЦЬ БОЛЬШ, ЧЫМ ЁСЦЬ

У літоўскім друку пастаянна месца займае тэма тэрытарыяльных узаемаадносін Літвы і Беларусі. "Ці захаваем мы тэндэнцыю да змяншэння тэрыторыі Літвы?" -- пытаецца журналіст газеты "Лієтувас рытас" у назве артыкула, прысвечанага заканчэнню беларуска-літоўскіх міждзяржаўных перагавораў аб дэлімітацыі і дэмаркацыі мяжы. "Зацверджаная 12 ліпеня 1920 года згодна з пагадненнем з Расіяй літоўская мяжа знаходзіцца сёння далёка ад Беларусі, -- піша ў газеце "Лієтувас айдас" член савета дэмакратычнай партыі Літвы Тумас Якудзіс. -- Аддзелены ад Літвы Пляяса, Гервяты, Крэва, Ашмяны, Апса... Яшчэ жывуць людзі, якія помняць, што ў гэтых мясцінах жылі пераважна літоўцы. У XX стагоддзі Літва з-за камуністаў страціла 15 тысяч квадратных метраў тэрыторыі, а стагоддзе яшчэ не скончылася..."

Прычына з'яўлення такіх матэрыялаў у літоўскім друку ў тым, што паміж нашымі краінамі ніколі ў гісторыі не было цвёрдай фіксаванай мяжы. Цяпер, калі работа па ўстанаўленню такой мяжы завяршаецца, становіцца ўсё больш прыкметным імкненне патрыётаў маленькай Літвы павялічыць тэрыторыю сваёй краіны за кошт суседзяў.

# ПАМЯЦЬ ДА ЗАПАТРАБАВАННЯ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Такім чынам, работу мы спынілі, але спынілі чыста фармальна. Спецыяльна створаную раней рэдакцыю расфарміравалі, але тры чалавекі засталіся працаваць над рукапісамі. Рыхтавалі кнігі па Бярозаўскім і Талачынскім раёнах, там, дарэчы, мае родныя мясціны. А потым пачалі мяняцца часы. Зноў вярнуліся да Шумілінскага раёна, але ўжо на новай аснове. Ну што нам цяпер толькі летапіс баявой славы? Трэба выйсці за межы Айчыннай вайны і рабіць хроніку -- Хроніку Памяці. Але гэта таксама тады нам не ўдалося. Зноў знайшліся дарадцы, якія "не параілі" "лезці далёка ў гісторыю". Кніжку мы назвалі ўсё ж такі "Памяць", хронікай дакументальнай, але зноў атрымалася хроніка вайны, і толькі сем старонак гісторыі, ды і якая там гісторыя! А вось ужо ў талачынскай кніжцы больш 50-ці старонак гісторыі -- ад княства Друцкага да нашэсця Напалеона. Але і тут лічу, звесткі пра мінуўшчыну пазначаны пункцірна. Ды нейкі крок наперад быў зроблены. Наступная хроніка была ляхавіцкая -- лепшая на сёння. У ёй ужо ёсць гісторыя развіцця культуры краю старонак на 130.

*-- Наколькі я ведаю, цяпер у зборы інфармацыі вам ахвотна дапамагаюць многія мясцовыя краязнаўцы?*

-- Так. Вельмі хутка стала зразумелым, што аднаму выдавецтву не пад сілу падняць справу цалкам. Мы сталі ствараць грамадскія раённыя камісіі па падрыхтоўцы матэрыялу. У іх акрамя раённага ідэалагічнага начальства (а як жа без яго!) па нашых рэкамендацыях сапраўды пачалі ўводзіць мясцовых краязнаўцаў, настаўнікаў, журналістаў, бібліятэчных работнікаў. Вось гэтыя камісіі з рознай ступенню актыўнасці і эфектыўнасці робяць Хронікі Памяці і па сёння. Ва ўсіх без выключэння раёнах. Цікава, што зараз яны аб'ядноўваюць сапраўды патрыятычна настроеных людзей, якія дбаюць і пра нацыянальнае адраджэнне, і пра аднаўленне памяці.

*-- Алесь Лявонцьевіч, ці захавалася і сёння тэндэнцыйнасць у адборы фактаў? Бо, як мне здаецца, з гэтым мы так і не развіталіся. Толькі плюс змянілі на мінус, а мінус -- на плюс.*

-- Я вам скажу, што мы не дапускаем такіх вось шараханняў. Гісторыя была заўсёды адна, але яна сапраўды асвятлялася па-рознаму. Наш лозунг: праўду, толькі праўду, нічога акрамя праўды, і праўда праз дакумент.

Але трапляюцца рукапісы залішне палітызаваныя, бываюць і аднабокія. Мы аўтарам адразу кажам: так справа не пойдзе. Калі вы пішаце, скажам, пра раённую камуністычную партыйную арганізацыю, то пішыце і пра іншыя партыі, якія рыхтавалі рэвалюцыю -- эсэраў, правых, левых, кадэтаў, Грамаду. Дакументы зараз адкрыты. Трэба ведаць, хто і за што змагаўся, хто якія рэпрэсіі праводзіў. Такім чынам, у нас катэгарычнае патрабаванне падаваць падзеі аб'ектыўна. І праз дакумент. Бывае, што мы нават і не каменцірусм дакументы. Вось, напрыклад, стварацілся "чонаўскія" атрады па барацьбе з так званым бандытызмам, але ж ёсць дакументы і пра Старакапытаўскае паўстанне, з якіх бачым, чаго там мужыкі хацелі і за што змагаліся.

Наогул падыход такі: беларуская гісторыя -- трагічная гісторыя, рэвалюцыя, усе войны, якія былі, для нашага народа -- вялікая трагедыя, а не поспехі нейкіх партый.

Што тычыцца ахвяр вайны, гэта наш боль, мы надаём велізарную ўвагу складанню спісаў. Яны займаюць у выданнях да дзвюх трэціх аб'ёму. А бываюць такія выпадкі, што спісаў хапае на ўсю кнігу. Вось у Дубровенскім раёне пахавана 22 тысячы загінуўшых воінаў, і калі па 120 літар даць на аднаго салдата, то гэта ўжо поўная кніга. У Полацкім, Мазырскім раёнах таксама да 20--25 тысяч загінуўшых -- воіны, падпольшчыкі, партызаны, мірныя жыхары, ахвяры генацыду -- яўрэйскае насельніцтва. Так што па некаторых раёнах будзе і па 2 тамы.

*-- Праца вядзецца сапраўды велізарная. Але ці будзе яна запатрабавана нашым цяперашнім кірмашова-рынычным і даволі бяспамятным грамадствам?*

-- Ведаеце, нашы хронікі маюць неверагодна "шчыльныя" тыражы. Уявіце сабе такую сітуацыю: у Талачынскім раёне 40 тысяч насельніцтва, мы выпускаем тыраж 20 тысяч, і 15 тысяч разыходзіцца за тры тыдні. Такія факты вядомыя і па іншых раёнах.

У тым жа Талачыне кніжку фактычна выкупілі калгасы -- кожная гаспадарка ўзяла столькі экземпляраў, колькі "іхніх" загінуўшых было ў спісе. А потым сабралі так званыя памінальныя сходы па вёсках, па сельсаветах і зачытвалі на іх, як на памінках, за ўпакой, прозвішчы. Чытанне імёнаў зацягвалася на некалькі гадзін. А пасля збіралі памінальныя сталы. Гэта вельмі кранае. Мы і самі ездзілі ў раёны прадстаўляць нашы кнігі. Збіраліся мясцовыя жыхары, разам прыгадвалі, як працавалі, ваявалі, людзі шмат чаго ўспаміналі, часам плакалі.

На жаль, не ведаю, ці зможам так рабіць і надалей, хаця і плануем. Як і ва ўсіх цяпер, то грошай не хапае, то бензіну... Але на такія стрэчы і пешкі хадзіць трэба.

*-- Колькі каштуе сёння выданне адной кнігі?*

-- Дзесяць мільёнаў. Але палову расходаў бярэ на сябе дзяржава, міністэрства выдаткуе выдавецтвам. Мы ставім пытанне пра ўсе 100 працэнтаў дзяржаўнай кампенсацыі. У Савет Міністраў такія паперы пайшлі.

*-- А які водгук знаходзіць у людзей іншыя звесткі пра іх мясціны -- гістарычныя, культурныя, этнаграфічныя?*

-- Таксама велізарны. Людзі разумеюць: гэта ўсё наша, і яны ганарацца. Падабаюцца раздзелы пра мясцовыя гаворкі. Тамтэйшыя жыхары нібы чуюць, бачаць сябе збоку. Вельмі цікавяцца гісторыяй сваіх вёсак. Тут, дарэчы, нам шмат дапамагае адна старая польская энцыклапедыя. Ёй самой ужо 100 гадоў, і звесткі яна дае стогадовай даўнасці.

*-- Цікава, а як вы абыходзіцеся сёння з тым, што раней у розных энцыклапедыях звалася "перыяд сацыялістычнага будаўніцтва"?*

-- Вельмі проста. Даём дакументальна пацверджаныя звесткі пра ранейшы перыяд -- сацыяльнае развіццё, тэхнічную аснашчанасць, адукацыю і г.д. -- і пра празнейшы. Супастаўляйце і вынікі рабіце, чытачы, самастойна. Тое ж і з некаторымі асобамі. Скажам, вы хадзец з нейкай вёскі стаў генералам. Вартая ўвагі асоба? Вартая. Дзе ён служыў вядома -- там, там і там, калі і ў НКВД, то так і напішам: у НКВД. Хто хоча, няхай асуджае, хто хоча, няхай ганарыцца.

Дарэчы, у спісах рэабілітаваных палітычных ахвяр абавязкова прыгадваем і так званых кулакоў, куды былі высланы, што стала з імі. Нават асабістыя ўспаміны невялічкія даём, калі знойдзецца, хто яшчэ памятае тых людзей. Тое ж тычыцца і "барацьбы з бандытызмам". Вось будзем пісаць слуцкую кніжку. Я думаю, таксама трэба, каб ў ёй было і пра тых, і пра другіх. Наша мэта паказаць, як было.

*-- А ці дапамагаюць у зборы матэрыялу беларусы замежжа?*

-- Так. І я найперш хачу падзякаваць Раісе Жук-Грышкевіч. Яна напісала нам пісьмо пра свайго мужа Віцэнта Жук-Грышкевіча. Жанчына сабрала вельмі многа матэрыялаў, даслала кнігу. Хачу падкрэсліць для ўсіх, хто дасылаў пэўныя звесткі або наважваецца: усё для нас вельмі дорага.

На жаль, з блізкім замежжам такія плённыя адносіны пакуль не склаліся. А тут магчыма вельмі карысная работа ў сувязі са складаннем поўных спісаў сталінскіх ахвяр. Сотні тысяч беларусаў знішчаны за межамі Беларусі, а дакументы мы атрымліваем фактычна выпадкова, калі знойдзецца проста сумленны чалавек і дашле іх нам. Так было, напрыклад, са спісам з Томскай вобласці.

*-- Беларускае КДБ таксама не мае такіх спісаў?*

-- Больш таго, улады чамусьці не клапоцяцца пра абмен падобнымі крымінальнымі справамі з тымі мясцінамі, куды людзі вывозіліся. Скажам, мы -- украінцам, украінцы адпаведныя дакументы -- нам. І тады лічба ахвяр узрасце неверагодна.

*-- А Мартыралог дапамагае чым-небудзь?*

-- Нічым. Не цікавяцца нашымі кніжкамі ці што? З майго боку была ініцыятыва, я сустракаўся з Пазьняком. Пазьняк хораша аднёсся да самой ідэі, але на гэтым усё скончылася.

***

У кабінеце Алеся Лявонцьевіча на сцяне вісіць вялікая карта Беларусі, расквечаная сімваламі, распрацаванымі гаспадаром. Па-рознаму заштрыхаваныя кружочкі паведамляюць, якая кніга ўжо выйшла, якая ў друку, а якая яшчэ толькі рыхтуецца. З карты вынікае: сапраўды, работа вядзецца ва ўсіх раёнах Беларусі. Работа незвычайная і па памеры, і па важнасці яе. Алесь Петрашкевіч верыць, што праз колькі год замест карты на сцяне з'явіцца паліца са 130 кнігамі. Няхай будзе так. Бо памяць не бывае да запатрабавання. Яна альбо ёсць, альбо яе няма. Хочацца верыць, што ўсё ж такі ёсць.

Гутарыла Галіна УЛІЦЁНАК.

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# АНДРЭЙ РЫМША

ПЕРАДА мною кнігі "Свод памятников истории и культуры Белоруссии. Брестская область" (1990, тут і далей у дужках пазначаны гады іх выданняў. -- **М.М.**), "Белорусская ССР. Брестская область. 3-е изд., перераб. и доп." (1987), "Барановичи: Ист.-экон. очерк" (1991), і нідзе ў іх няма ні слова, ні паўслова аб адным з пачынальнікаў беларускай панегірычнай паэзіі -- славутым сыне Берасцейшчыны і Беларусі -- Андрэю Рымшу. Перагортваю старонкі яшчэ адной кнігі --"Белорусский экватор" (1981), і здзіўленню майму няма межаў, калі там чытаю: "Деревня Пенчин (в XYI веке -- Пеньчина) среди другіх деревень Кореличского района сегодня ничем особенным не выделяется. История же ее отмечена рождением около 1550 года Андрея Рымши -- поэта и переводчика, зачинателя жанра панегирической поэзии в древней белорусской литературе".

Дзівіўся я вось чаму: вёску Пеньчын з Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці аўтар і складальнікі зборніка "Белорусский экватор" перablыталі з другім раёнам і вобласцю (Гродзенскай. -- **М.М.**).

Звесткі аб нашым слынным суайчынніку надта бедныя, але яны данеслі да нас, што Рымша быў смелым і мужным чалавекам, які валодаў талентам ваеннага арганізатара. Атрымаў ён свой баявы вопыт на службе ў буйнейшых беларускіх магнатаў Радзівілаў, у паходах караля Стэфана Баторыя.

Захаваўся ў архівах дакумент канцылярыі каралеўства Рэчы Паспалітай ад 20 красавіка 1590 года. Тут выразна напісана, што нашаму земляку даручана фарміраванне і экіпіраванне войска напярэдадні вайны з туркамі.

Тады выхадцу з вёскі Пеньчына споўнілася ўжо каля сарака гадоў. Гэта быў вядомы, вопытны ваенны і грамадскі дзеяч, цікавы літаратар, які аддаваў свае сілы, энергію і веды служэнню Бацькаўшчыне.

Па звестках вучоных і даследчыкаў жыцця і творчасці Андрэя Рымшы, ён атрымаў выдатную адукацыю, вучыўся ў Астрогу. У гэтым горадзе другі наш суайчыннік Іван Фёдараў каля 1578 года стварыў друкарню, магчыма, іх шляхі перакрыжоўваліся тут (яны жылі і дзейнічалі ў адзін і той жа час. -- **М.М.**).

У створанай Іванам Фёдаравым друкарні ў Астрогу (зараз гэты горад знаходзіцца ў Ровенскай вобласці на Украіне) Андрэй Рымша выдае першы свой паэтычны твор -- "Храналогію" -- на выдатнай старажытнабеларускай літаратурнай мове. Вось некалькі радкоў з гэтай "Храналогіі", прысвечаных першым тром месяцам года (адразу прашу такой іх чарговасці не дзівіцца, бо тады новы год пачынаўся з верасня. -- **М.М.**):

**Месяца сентебра, по**
**гербейскому елюль, просто вресень.**
**Двадъцать четвертого дня**
**месяца сенътебра**
**Дороблен Еросолим, сталася**
**реч добра.**
**Месяца октовриа,**
**по гербейску тышри, просто**
**паздерник.**
**Арха з Ноим на горе стянула на суши.**
**Другой потоп не будет, так**
**нам писмо туши.**
**октовриа 17 дня.**
**Месяца ноемвриа,**
**по гебрейску маргеусаль,**
**просто груденъ.**
**Жидом свято уставил тут**
**царь Еровоам.**
**Мы о свои не дбаем,**
**не велми ж добро нам.**
**ноемвриа 15 дня.**

Прачытваючы "Храналогію", мы звяртаем увагу на эрудыцыю нашага выдатнага суайчынніка, які аднолькава бліскуча ведае латынь, яўрэйскую мову, акрамя таго ён цудоўна валодае старабеларускай, польскай і іншымі. "Храналогія" была аддрукавана 5 мая 1581 года. Іван Фёдараў назаўсёды ад'ехаў з Астрога ў 1582 годзе. Так што шляхі-дарогі нашых вялікіх суайчыннікаў з вёсак Пеньчын і Петкавічы (месца нараджэння Івана Фёдарава. -- **М.М.**) Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці перакрыжаваліся. Аб чым ішлі іх размовы, сёння мы толькі можам рабіць здагадкі. Але праца аднаго выдатнага дзеяча была ўвасоблена ў жыцці другім такім жа творцам. Кажучы пра "Храналогію" А. Рымшы, мы ўслед за буйнейшым вучоным і кніжным даследчыкам з Масквы Яўгенам Неміроўскім можам адзначыць: нашы два славутыя суайчыннікі стварылі першы ўсходнеславянскі каляндар і далі жыццё першаму асобна выдадзенаму твору беларускай паэзіі.

Цікава таксама адзначыць, што адзіны ў свеце экземпляр "Храналогіі" А. Рымшы сёння знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу.

Наступныя звесткі пра Андрэя Рымшу ўжо адносяцца да Дзевяністак Ашмянскага павета (1582) і да яго дзейнасці падстаростам у Біржах (сёння гэта Летува).

У зборніку "Старажытная беларуская літаратура" (1990), акрамя "Храналогіі", надрукавана некалькі панегірычных вершаў А. Рымшы.

У панегірыках Андрэя Рымшы "На герб ясневельможного пана Остафея Воловича, пана Виленского и прочих", "На... гербы... Льва Сапеги", "На гербы ясневельможного пана Теодора Скумина, воеводы Новгородского епиграмма" (Апостал, 1591) мы адчуваем жывое дыханне нашай слаўнай гісторыі, бачым выдатных асоб той складанай эпохі, іх буйныя справы і ратныя подзвігі ў барацьбе супраць знешніх ворагаў. Спынімся на Льву Сапегу -- славутым дзяржаўным і палітычным дзеячы Вялікага Княства Літоўскага, які ўпарадкаваў і надрукаваў за ўласны кошт трэцюю рэдакцыю Статута Вялікага Княства Літоўскага (1588). Разам з Андрэем Рымшай не можам не захапіцца і не аддаць належнае нашаму славутаму продку:

**Живете ж Сапегове вси в**
**многие лета!**
**Ваша слава слыть будеть,**
**покуль станеть света!**

Такім жа вялікім сынам нашай Бацькаўшчыны быў і Астафей Валовіч, па бацьку Багданавіч (? -- XII.1587), і яго ўславіў Рымша (Зборнік павучанняў, 1585):

**Што две стрелы, што врубы,**
**што лелеи значат,**
**То вси люди мудрые вельми**
**горазд бачать,**
**Которых зацный тот дом за**
**герб уживаеть.**
**Верь мне, иж там господу**
**цнота свою маеть.**

У былой сталіцы нашай дзяржавы Вільні ў друкарні вядомага выдаўца Яна Карцана ў 1585 годзе была аддрукавана гісторыка-дакументальная паэма Андрэя Рымшы "Декетерос акроама, ці Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў... Крыштофа Радзівіла". Гэта вялікі твор на польскай мове, які змяшчае ў сабе 2 184 радкі, успаміны былога ваяра пра найцяжэйшы час нашай Бацькаўшчыны, калі ішла вайна з царом Іванам Жахлівым. Дарэчы, матка яго Алена Васільеўна Глінская была родам з Вялікага Княства Літоўскага.

У вялікім паэтычным палотнішчы А. Рымшы праглядваецца асуджэнне вайны, якая нясе нечуваныя бедствы і страты людзям, і ў той жа час гэта баявы покліч у абарону сваёй маці-Радзімы. Ці не аб гэтым гавораць радкі А. Рымшы ў перакладзе І. Саверчанкі:

**Усёй падрыхтоўкай кіруе**
**магутны кароль Сяміградскі.**
**Воля адна у яго -- ворага**
**ў клетку узяць,**
**Высмаліць вочы паганыя,**
**вынішчыць корань атрутны,**
**Шлях каб забыў на Літву,**
**зграі навек заказаў.**

Прыцягвае ўвагу і яшчэ адзін твор нашага суайчынніка -- "Хараграфія, ці Тапаграфія святой зямлі", пераклад з латыні на польскую мову.

Выдатнейшы ўклад у літаратуру і баявыя справы нашай дзяржавы Андрэя Рымшы не забыты яго землякамі. Зусім нядаўна ў гарадскім пасёлку Гарадзішча (Баранавіцкі раён) прайшлі ўрачыстасці ў гонар вялікага земляка, і адна з вуліц (у напрамку Пеньчына) атрымала яго імя. Але ў Баранавічах, Берасці і ў Мінску пакуль нічога не зроблена па ўшанаванню і ўвекавечванню памяці вялікага продка, а калісьці ён папярэджваў:

**"Подавайте ж потомъком, што маете з предъков!".**

**Міхась МАЛІНОЎСКІ.**

# У ПОЛЬШЧЫ НЕ ВЕДАЮЦЬ НАВАТ КАРАТКЕВІЧА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Сярод сучасных беларускіх пісьменнікаў найбольш вядомымі ў Польшчы з'яўляюцца Васіль Быкаў, Максім Танк, Янка Брыль, Іван Пташнікаў. Творы В.Быкава перакладаліся часцей за іншыя і высока ацэнены польскай крытыкай, якая звярнула ўвагу на іх глыбокі псіхааналітызм, ашчаднасць пісьменніка ў карыстанні словам. Разам з Я.Брылём В.Быкаў з'яўляецца адным з нешматлікіх беларускіх пісьменнікаў, якога палякі найбольш ахвотна перакладаюць. Сярод перакладчыкаў сустракаюцца імёны такіх вядомых творцаў, як В.Варашыльскі, Э.Кабатц, А.Дравіч. Творы пісьменніка, што выйшлі ў польскіх перакладах, даюць даволі цэласны і поўны вобраз ягонай творчасці. Дагэтуль у Польшчы былі выдадзены "Трэцяя ракета" (1963, 1979) у вельмі добрым перакладзе Э.Кабатца, "Альпійская балада" (1970, 1971), "Пастка" (1970), "Праклятая вышыня" (1970), "Сотнікаў" і "Дажыць да світання" (1974, 1979), "Круглянскі мост" і "Абеліск" (1975), "Яго батальён" (1978), "Воўчая зграя" (1982), "Пайсці і не вярнуцца" (1985). У 1989--1992 гадах выйшлі "У тумане" і "Кур'ер" у перакладзе Э.Мэлеха, а таксама "Знак бяды" ва ўзнаўленні Марыі Путрамант. Вядзецца падрыхтоўка да выдання найноўшай аповесці В.Быкава -- "Аблава" ў перакладзе на польскую мову Чэслава Сенюха.

Творчасць Максіма Танка, пісьменніцкая дзейнасць якога пачалася яшчэ ў даваеннай Польшчы, прадстаўлена ў польскіх перакладах зборнікамі вершаў "На шляху дзікіх гусей" (1965), "Выбраныя вершы" (1974), "Выбраная паэзія" (1977), а таксама празаічным творам, звязаным з польскай тэматыкай -- "Лісткі календара" (1977).

Азнаямленне польскага чытача з творчасцю Я.Брыля пачалося са зборніка апавяданняў "Глядзець на траву" (1971), у які ўвайшлі 23 творы і лірычныя мініяцюры, што прадстаўляюць усе перыяды ягонай навелістычнай творчасці. У 1973 годзе штотыднёвік "Literatura" пачаў сістэматычна змяшчаць падборкі мініяцюр Я.Брыля са зборніка "Жменя сонечных промняў". З іншых твораў Я.Брыля ў Польшчы былі выдадзены зборнік апавяданняў "Свет далёкі і блізкі" (1974), "Ніжнія Байдуны" (1979), "Вітражы" (1979), "Золак, убачаны здалёк" (1986), "Хуткі Нёман" (1989, у выдавецкай серыі сучаснай сусветнай прозы).

Творчасць І.Пташнікава прадстаўляюць у Польшчы наступныя выданні: "Лонва" (1975), "Тартак" (1977) і "Палаючае ўзгор'е" (1979).

Надзіва мала перакладалі У.Караткевіча. За выключэннем зборніка апавяданняў "Блакіт і золата дня" (1976), што належаць да ранняга перыяду ягонай творчасці, навелы "Ладдзя Роспачы", апублікаванай у штомесячніку "Literatura na Swiecie" ў 1982 годзе, і некалькіх дробных твораў, практычна нічога не было перакладзена ў Польшчы, дзе імя выдатнага беларускага пісьменніка амаль невядомае.

Адным ці двума асобнымі кніжнымі выданнямі ў польскіх перакладах прадстаўлены Вячаслаў Адамчык, Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін, Данута Бічэль-Загнетава, Уладзімір Калеснік, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Іван Мележ, Іван Шамякін...

У 60-я гады штомесячнік "Zycie i Mysl" апублікаваў невялікую падборку перакладаў беларускіх паэтаў. Праз 10 гадоў стараннямі Яна Гушчы ў часопісе "Poezja" выйшла малая анталогія сучаснай беларускай паэзіі, што ўключала 16 вершаў. У тым ліку --Р.Барадуліна, К.Кірэенкі, М.Танка. А ў 1971 годзе ў лодзінскім штотыднёвіку "Odglosy" была надрукавана яшчэ адна падобная анталогія, у якую ўвайшлі вершы Я.Купалы, Я.Коласа, С.Дзяргая, М.Танка, У.Караткевіча, Н.Гілевіча, М.Лужаніна. Гэта сведчыць аб росце зацікаўленасці беларускай паэзіяй у Польшчы на мяжы 60-х і 70-х гадоў -- перш за ўсё дзякуючы вялікай папулярызатарскай працы згаданага ўжо лодзінскага кола. Практычным вынікам гэтае зацікаўленасці было з'яўленне ўсё новых перакладаў беларускай літаратуры, якія пазней увайшлі ў першыя анталогіі і зборнікі твораў. Менавіта такая анталогія беларускай паэзіі была выдадзена выдавецтвам "Ossolineum" у 1973 годзе ў прэстыжнай акадэмічнай серыі "Нацыянальная бібліятэка", у якой друкуюцца адметныя творы польскай і замежнай класікі. Для польскага чытача яна дагэтуль з'яўляецца бадай што адзінай кнігай, якая дазваляе адносна шырока пазнаёміцца з паэтычнай творчасцю суседняга народа. Анталогія ўключае асобныя творы беларускай паэзіі ад яе пачаткаў да сённяшняга дня. Падабраў вершы і пракаменціраваў іх Ян Гушча. Уступнае слова, напісанае А.Баршчэўскім, па сутнасці, уяўляе сабой кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры з вылучэннем яе найбольш характэрных перыядаў і пераломных этапаў. Кніга прадстаўляе беларускую паэзію вершамі 32 паэтаў. Праўда, сучасныя беларускія паэты, на думку некаторых крытыкаў, паказаны занадта павярхоўна. Варта дадаць, што малы тыраж (5 000 экземпляраў) адразу зрабіў гэтую кнігу рарытэтам.

Пасля 70-х гадоў наступае некаторае змяншэнне цікавасці палякаў да беларускай паэзіі. З'ява гэта не зусім зразумелая, калі ўлічыць, што большая частка беларускіх вершаваных твораў вельмі добра кладзецца на польскую мову. Не закранаючы аб'ектыўныя прычыны змяншэння колькасці перакладаў беларускай паэзіі, адсутнасці дастатковай колькасці прафесійных перакладчыкаў з беларускай мовы, варта задумацца над спецыфікай успрымання верша, уласцівай польскаму менталітэту. Яна непасрэдным чынам уплывае на папулярнасць паэзіі. Беларуская паэзія з самага пачатку свайго існавання была цесна звязана з рэчаіснасцю і ў пэўнай ступені з'яўляецца яе адлюстраваннем. Асабліва часта галоўнай тэмай беларускіх паэтычных твораў быў цяжкі лёс люду, сялян. Польская ж паэтычная традыцыя, якая ў значнай меры прасякнута рамантызмам, часам візіянерска-месіянскім ці нават рэлігійна-містычным духам, уяўляе на гэтым фоне той своеасаблівы кантраст, што фармуе адпаведныя схільнасці і густы.

Пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры ў Польшчы, а таксама беларуска-польскіх літаратурных сувязей неаднаразова закраналіся польскімі і беларускімі даследчыкамі. Тым не менш, трэба сказаць, што да сённяшняга дня польская літаратурная крытыка не мае ўласнага цэласнага погляду на беларускую літаратуру як інтэгральную частку еўрапейскай культурнай з'явы. Спарадычныя публікацыі, што выходзілі на гэтую тэму ў Польшчы, мелі пераважна інфармацыйны характар і, як правіла, з'яўляліся з нейкай нагоды. Пэўныя элементы крытыкі заключаюць у сабе прадмовы, пасляслоўі і каментарыі выданых кніг беларускіх аўтараў. Таму вобраз беларускай літаратуры, якім яго бачаць знаўцы прадмета, у значнай ступені застаецца меркай яе ацэнак у польскай крытыцы.

Да канца 60-х гадоў сучасная беларуская літаратура заставалася амаль што зусім невядомай не толькі шырокім колам польскіх чытачоў, але нават вузкай групе спецыялістаў літаратурнага асяроддзя. Такі стан рэчаў узнік у выніку слабай зацікаўленасці польскіх даследчыкаў, перыядычных выданняў і выдавецтваў літаратурнымі працэсамі, што адбываюцца ў Беларусі, адсутнасці дастатковай колькасці перакладаў і іх не заўсёды высокай якасці. Нярэдка яны былі выкананы з рускага выдання таго ж самага твора, а тыя, што друкаваліся на старонках перыёдыкі, у цэлым не адлюстроўвалі развіццё літаратурнага працэсу ў Беларусі. Інфармацыя пра беларускую літаратуру, пераклады паасобных аўтараў пераважна прымяркоўваліся да адпаведнай акалічнасці, звязанай з угодкамі, юбілеем пісьменніка ці Днямі культуры або іншымі культурнымі імпрэзамі, навуковымі сустрэчамі.

Наогул, аўтарам, што пішуць па-беларуску, не асабліва шанцавала ў польскіх выдавецтвах. Так было ў мінулым. Але і цяпер не выглядае на тое, што гэты стан рэчаў можа змяніцца да лепшага. Выдавецтвы маюць свае вузкія эканамічныя інтарэсы. У часы прагрэсіруючай камерцыялізацыі кніжнага рынку выданне перакладаў з літаратур, недастаткова вядомых і таму -- у масавым успрыманні -- непрывабных, з'яўляецца для іх рызыкоўным. Гэта стварае ў пэўным сэнсе спрэчную сітуацыю, бо пакуль у Польшчы не будзе магчымы больш шырокі погляд на беларускую літаратуру, гаворка аб культурным збліжэнні ў гэтай сферы застанецца чыстым тэарэтызаваннем.

**Юрась ВАШКЕВІЧ,**
**сябра МАБ.**

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# БНР — БССР — РБ,

## або ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

Паражэнне Германіі і яе саюзнікаў у сусветнай вайне, звяржэнне ў Германіі манархіі, распад Аўстра-Венгерскай манархіі,ануляванне Савецкай Расіяй Брэст-Літоўскага дагавора азначалі карэннае змяненне становішча ў Еўропе. Нямецкая армія пакідала захопленую тэрыторыю. За ёю, пазбягаючы сутыкненняў, ішлі малалікія савецкія войскі, сустракаючы добразычлівыя адносіны насельніцтва, якое зведала на сабе ў поўнай меры іншаземнае панаванне.

Паўстала пытанне аб дзяржаўным уладкаванні нацыянальных рэгіёнаў, якія вызваляліся з-пад акупацыі. Шматзначная ў плане разумення бальшавікамі нацыянальнай палітыкі ў новых умовах тэлеграма Леніна галоўнаму камандуючаму Вацэцісу, у якой гаварылася аб неабходнасці падтрымкі ўзнікаючых "абласных савецкіх рэспублік". Што датычыць Польшчы, то яшчэ ў 1918 годзе, да германскай рэвалюцыі, Савецкая Расія прызнала права польскага народа на незалежную суверэнную дзяржаву і дэнансавала дагаворы аб падзеле Рэчы Паспалітай.

У сувязі з крахам нямецкай акупацыі бальшавікі аднавілі Украінскую Савецкую Рэспубліку. У процівагу існуючым буржуазна-дэмакратычным рэспублікам стварылі Літоўскую, Латвійскую і Эстонскую Савецкія Рэспублікі. Насуперак супраціўленню аблвыкамзахаўцаў 1 студзеня 1919 года была аб'яўлена Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі (ССРБ). Першы з'езд Кампартыі Беларусі, які прыняў рашэнне аб самавызначэнні Беларусі, у адной са сваіх рэзалюцый запісаў, што Беларускай радзе і яе Народнай Рэспубліцы "працоўны народ проціпастаўляе сваю рабоча-сялянскую ўладу, сваю Савецкую Рэспубліку". Гэтым прызнавалася дачыненне БНР да абвяшчэння ССРБ, а таксама законнасць і абгрунтаванасць у прынцыпе патрабаванняў утварэння беларускай дзяржаўнасці. Спецыяльным актам Савецкая Расія прызнала суверэннасць і незалежнасць новай дзяржавы. Беларуская рэспубліка атрымлівала свабоду выбару форм адносін з РСФСР і іншымі савецкімі рэспублікамі. ССРБ звярнулася да сусветнай супольнасці дзяржаў з просьбай аб міжнародным прызнанні. У юрыдычным сэнсе цяжка было нешта дадаць для паўнаты суверэнітэту. Незалежнасць Беларусі, аб'яўленую ўстаўнымі граматамі БНР, прызналі і бальшавікі.

Расійскі савецкі ўрад не мог не ўлічваць па-свойму нацыянальных рух, імкненне народаў мець сваю дзяржаўнасць. Але несумненна і тое, што абвяшчэнне незалежных савецкіх рэспублік на захадзе былой царскай імперыі звязвалася з мэтамі перанясення полымя пралетарскай рэвалюцыі ў Заходнюю Еўропу. Калі III Усерасійскі з'езд Саветаў самавызначэнне народаў спалучаў з адначасовым уваходжаннем новаўтвораных савецкіх нацыянальных дзяржаў у склад Расійскай федэрацыі, то цяпер гэтая праблема так адкрыта і прамалінейна не ставіцца. І лозунгі, і сама практыка дзяржаўнага будаўніцтва павінны былі паказаць, што сусветная пралетарская рэвалюцыя не азначае ліквідацыю нацыянальных дзяржаў і паглынанне Расіяй іх тэрыторый, што савецкая ўлада сваёй нацыянальнай палітыкай, прызнаннем права нацый на самавызначэнне і заахвочваннем яго фактычнай рэалізацыі дэманструе дэмакратычную знешнюю палітыку. Таму абвінавачванні Масквы ў бальшавіцкім імперыялізме, як працягу знешняй палітыкі рускага царызму, не маюць пад сабой ніякіх падстаў.

Разам з тым заўважым, аналізуючы абставіны ўтварэння ССРБ: калегі-гісторыкі недастаткова

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 47--49.**

ўлічваюць агульную палітыку ўрада РСФСР у адносінах дзяржаўнай будовы нацыянальных рэгіёнаў, што вызваляліся ад акупацыі. Разглядаць абвяшчэнне ССРБ толькі як контрмеру ў барацьбе з Радай БНР -- значыць не ўлічваць іншых важных прычын, што абумовілі гэты акт, у тым ліку і прэтэнзіі адроджанай польскай дзяржавы на беларускую тэрыторыю.

У ходзе падзей, умоўна гаворачы, узніклі дзве "канкурыруючыя" структуры -- БНР і ССРБ, якія апраўдвалі сваё існаванне правам нацыі на самавызначэнне. Нібыта з'явіліся нейкія падставы для ўзаемаразумення, кампрамісаў, аб'яднання намаганняў у галіне нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага адраджэння. Але збліжэння не адбылося і не магло адбыцца. Варагуючыя бакі падзяляла рознае разуменне палітычных і сацыяльна-эканамічных асноў дзяржаўнасці. Прыхільнікі БНР разглядалі ССРБ як нешта незаконнае, фіктыўнае, штучнае, несапраўднае, прынесенае звонку. Бальшавікі ж бачылі ў БНР спробу варожых сацыялістычнай рэвалюцыі сіл стварыць з дапамогай заходніх дзяржаў насуперак волі народа буржуазную нацыянальную дзяржаўнасць, адарваць Беларусь ад рэвалюцыйнай Расіі.

Падводзячы вынік сказанаму, варта прызнаць, што рэальная беларуская нацыянальная дзяржаўнасць з сістэмай функцыянуючых цэнтральных і мясцовых органаў улады, з праваахоўнымі ўстановамі, правatворчасцю і г.д. бярэ свой пачатак з абвяшчэння ССРБ. Скасаваная ў лютым 1919 года з утварэннем аб'яднанай Літоўска-Беларускай рэспублікі, яна зноў была ўзноўлена 31 ліпеня 1920 года Дэкларацыяй аб незалежнасці Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі. Як бачым, і да 1990 года двойчы абвяшчалася "поўная" суверэннасць БССР. На жаль, у Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, прынятай 27 ліпеня 1990 года, гэтыя акты канстытуцыйнага значэння беспадстаўна замоўчваюцца, як быццам бы іх і не было.

### 7. АБ САМАЛІКВІДАЦЫІ БНР

У Мінску ўважліва сачылі за працэсамі, якія адбываліся ў асяроддзі беларускай палітычнай эміграцыі пасля заканчэння грамадзянскай вайны. Далейшая яе барацьба за БНР станавілася ўсё больш бесперспектыўнай. Згортвалі сваю дзейнасць Рада і ўрад БНР. Пасля рэарганізацыі ў жніўні 1923 года ва ўрад увайшло некалькі асоб: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў -- А. Цвікевіч, міністр асветы -- Я. Варонка, дзяржаўны кантралёр -- Л. Заяц, выконваючы абавязкі міністра фінансаў -- В. Захарка, дзяржаўны пісар У. Пракулевіч. Кіраўніцтва БССР лічыла, што надышоў час, калі можна дабіцца самароспуску ўрада БНР. У прапагандысцкіх і палітычных мэтах было выгадна, каб рысу пад гісторыяй барацьбы за БНР падвялі яе лідэры. З савецкага боку былі прыняты актыўныя меры, у тым ліку і па лініі наладжвання сакрэтных кантактаў з асобнымі беларускімі палітычнымі дзеячамі за мяжой. ("Идеологическая деятельность Компартии Белоруссии в двух частях. 1918--1928". Часть I. Минск, 1990, с. 190, 204).

15 кастрычніка 1925 года ўрад БНР прыняў пастанову аб самароспуску. Прызнаючы, што ўлада ў Мінску імкнецца адрадзіць беларускі народ культурна, эканамічна і дзяржаўна, Савет Міністраў пастанавіў: "Спыніць існаванне ўраду БНР і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі". Дакумент падпісалі А. Цвікевіч, Л. Заяц, У. Пракулевіч. ("За дзяржаўную незалежнасць". С. 67). Падкрэслім, што акт урада БНР аб самароспуску абапіраўся на рашэнні 2-й палітычнай нарады ў Берліне, што адбылася таксама 15 кастрычніка 1925 года. Яна канстатавала, што "на ўсходніх абшарах Беларусі створана Беларуская дзяржава ў форме Беларускай Радавай Рэспублікі". Прызнавалася надзвычайная важнасць імкнення "Радавай Беларусі да зьдзейсьненьня нацыянальна-дзяржаўнага ідэалу беларускага народа". Разглядаючы Мінск у якасці цэнтра беларускага адраджэння, нарада лічыла, што ўсякія спробы актыўнай барацьбы супраць яго з'яўляюцца "здрадай справе вызваленчага беларускага руху". Пад пастановай нарады подпісы А. Цвікевіча, К. Езавітава, У. Пракулевіча, А. Галавінскага, Л. Зайца. У нарадзе прыняў удзел старшыня Рады БНР В. Захарка. На нарадзе прысутнічалі прадстаўнікі БССР З. Жылуновіч і Ульянаў для прыняцця, як сказана ў дакуменце, мандатаў БНР. (Там жа, с. 67).

Адначасова нарада не прызнала законнасць Рыжскага мірнага дагавора. Адарванне Польшчай Заходняй Беларусі разглядалася як "акт гвалтоўнай акупацыі". Разам з тым было выказана пажаданне аб далучэнні ў адпаведнасці з воляй мясцовага насельніцтва да БССР Гомеля і іншых усходніх паветаў.

Праз некалькі дзён за названымі дакументамі з'явіўся мемарыял А. Цвікевіча ўраду Савецкай Беларусі. Экс-прэм'ер, прызнаючы Мінск і цэнтрам "беларускага вызваленчага руху", лічыў, што вырашэнне задачы ўз'яднання заходняй і ўсходняй частак Беларусі магчыма толькі вакол Мінска і ўрада Савецкай Беларусі як рэальнай сілы, "а не каля ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі, маючага пераважна дэкларатыўны характар". Выказвалася надзея, што роспуск урада БНР знойдзе станоўчы водгук у Лізе Нацый і ва ўсім свеце.

Галоўным варункам, што зрабіў уплыў на прыняцце рашэння аб роспуску ўрада БНР, А. Цвікевіч лічыў нацыянальную палітыку Савецкага Саюза, прызнанне бальшавікамі, як яму здавалася, таго факта, што "нацыянальны пафас прыгнечаных народаў з'яўляецца магутнай стваральнай сілай" (с. 69). Цвікевіч не мог прадбачыць, што многія інтэлігенты -- носьбіты і генератары такога энтузіязму пазней стануць ахвярамі ГУЛАГа.

### 8. УВАСКРАШЭННЕ РАДЫ БНР

Гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі, а дакладней, структур, што прэтэндавалі на яе прадстаўніцтва, не закончылася ў 1925 годзе. У гады Вялікай Айчыннай вайны ідэя БНР зноў стала актуальнай у асяроддзі антыбальшавіцкіх сіл.

Насаджаючы акупацыйныя парадкі, нямецка-фашысцкія ўлады спрабавалі схіліць на свой бок тых, хто быў незадаволены савецкай уладай. Больш таго, яны імкнуліся стварыць надзейныя ваенныя фарміраванні, якія б ваявалі супраць Чырвонай Арміі і партызан, падаўлялі б супраціўленне насельніцтва акупацыйнаму рэжыму. У акупіраванай Беларусі пад апекай нямецкай адміністрацыі ствараюцца розныя арганізацыі, вядучую ролю сярод якіх заняла Беларуская Рада на чале з Р.Астроўскім. У яе статуце "ўведзеным у сілу" гаўляйтэрам Готбэргам 1 сакавіка 1944 года, гаварылася: "Беларуская Цэнтральная Рада мае заданьне (не правы, абавязкі, а іменна "заданьне". -- **В.К.**) мабілізаваць усе сілы беларускага народу для зьнішчэньня бальшавізму і прыняцця гэтым да канчальнага вызваленьня беларускага народу з-пад ярма крывавага бальшавіцкага панаваньня". ("За дзяржаўную незалежнасць Беларусі". Лондан. 1960, с.93). Вось так нямецка-фашысцкія ўлады разумелі мэты, характар і ўмовы "супрацоўніцтва" з саюзнікамі (якія лічылі магчымым стварыць беларускую дзяржаўнасць пад эгідай Германіі). Свае распараджэнні БЦР магла даваць толькі з благаслаўлення генеральнага камісара. У Берліне рашалі, у якой меры дапусціць у Беларусі "самакіраванне". Безумоўна, ніякага дэмакратычнага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння не магло быць. Калі і былі такія ілюзіі ў каго-небудзь, то не маглі не развеяцца, як дым.

Наспеў час, каб аб'ектыўна, без лішніх эмоцый высветліць матывы паводзін тых, хто апынуўся пад сцягамі БЦР. Прызнаем, што гэта не так проста. Без вострых спрэчак не абысціся.

На нашу думку, аўтар манаграфіі "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" -- кнігі змястоўнай, багатай новымі фактамі (Мінск, 1993), Юры Туронак неразважліва звужае погляд на праблему, калі робіць вывад: "Русіфікатарская палітыка савецкіх улад з'яўляецца найважнейшым элементам для ацэнкі пазіцыі і дзейнасці беларускіх палітычных колаў і той часткі грамадства, якая ва ўмовах нямецкай акупацыі імкнулася да захавання і ўзмацнення нацыянальнай самабытнасці". (С. 202).

Галоўная прычына ўсё ж ляжала глыбей: у непрыняцці савецкага ладу, камуністычнага рэжыму. І зусім ужо не вынікае з матэрыялаў кнігі сцвярджэнне, што "адносіны нямецкай цывільнай адміністрацыі да беларускай справы былі лепшымі, чым пры савецкай уладзе".

Наступленне Чырвонай Арміі, што пачалося летам 1944 года, прымусіла нямецкія войскі да спешнага адступлення з Беларусі. Літаральна за некалькі дзён да ўступлення савецкіх войск у Мінск, 27 чэрвеня 1944 года, у горадзе сабраўся II Усебеларускі кангрэс. Здавалася б, якая ў ім патрэба? З'езд ужо ніяк не мог паўплываць на ход ваенных дзеянняў, на палітычную сітуацыю. Было ясна, што вайна Германіяй прайграна і канчатковы разгром гітлераўскай ваеннай машыны -- справа часу. Але сэнс усё ж быў. У арганізатараў кангрэса былі свае далёка сягаючыя палітычныя разлікі. Паколькі немцы адыходзяць, то настаў якраз той момант, калі можна аб'явіць аб пераходзе ўлады ў Беларусі да органа, створанага самімі беларусамі. Гэтая акцыя, якая павінна была надаць высакароднасць палітычным групам, што супрацоўнічалі з акупацыйнай адміністрацыяй, сведчыць аб тым, што ў рэшце рэшт імі ставілася высокая мэта -- стварыць незалежную беларускую дзяржаўнасць. Супрацоўніцтва ж з немцамі -- толькі тактычны крок на шляху да запаветнай мэты. Цаплілася надзея і на разлад у антыгітлераўскай кааліцыі.

Спешна сабраны кангрэс (засядаў адзін дзень) прыняў рэзалюцыю з чатырох пунктаў у форме нарматыўнага дакумента без якой-небудзь прэамбулы, якая б тлумачыла матывы і мэты яго прыняцця. У рэзалюцыі аб"яўлялася, і гэта яе галоўны зыходны пункт, што "адзіным праўным прадстаўніком беларускага народа і ягонага краю з"яўляецца сёння Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзідэнтам Радаславам Астроўскім на чале" ("Другі Усебеларускі Кангрэс". 1954, с.67). Усе астатнія палажэнні -- дапаўненне да гэтага тэзіса.

Паколькі вярхоўная ўлада пераходзіла да БЦР, то патрабавалася вызначыць адносіны да беларускай савецкай дзяржаўнасці. З гэтай прычыны заяўлялася: "Падцьвердзіць, што Беларускі народ ніколі ня прызнаваў, ня прызнае цяпер і ніколі ня прызнае ў будучыні за форму сваёй беларускай дзяржаўнасці накіненыя яму маскоўскімі захопнікамі формы БССР." (Там жа, с.67).

Калі БЦР -- суверэнная ўлада, то сама логіка рэчаў патрабавала вызначыць і міжнародны аспект яе паўнамоцтваў. Зноў прывядзём вытрымку з дакумента: "Паведаміць усе ўрады і народы свету, што голас Масквы і СССР у беларускіх справах ня мае ніякай праўнай сілы, а ўсе твораныя Масквою нібыта беларускія ўрады -- ня маюць ніякіх праўных кампетэнцыяў, бо ня вызнаюцца беларускім народам". (Там жа). Кангрэс лічыў пры гэтым неабходным спецыяльна агаварыць, што ён не прызнае савецка-польскіх дагаворанасцяў па тэрытарыяльнаму пытанню, што тычацца Беларусі, як і пагадненнні, якія могуць быць у будучыні.

Аб"яўляючы БЦР на чале з Р.Астроўскім адзіна законнай уладай у Беларусі, кангрэс не абышоў пытання і аб сваёй "радаслоўнай", г.зн. аб ужо меўшых месца ў пасляcaseтрычніцкі час спробах стварыць беларускую дзяржаўнасць не на савецкай аснове. Была прызнана правільнай і зноў пацверджана 3-я Устаўная грамата БНР "аб канчальным разрыве Беларусі з бальшавіцкаю Масквою і расейскай дзяржавай у ўсіх яе формах". (Там жа). Пры гэтым агаворвалася, што паўнамоцтвы на выдзяленне са складу Расіі Рада БНР атрымала нібыта ад Першага Усебеларускага кангрэса. Такіх рашэнняў, аднак, кангрэс 1917 года не прымаў. Наадварот, як можна меркаваць па праектах рэзалюцый, былі намеры аб"явіць Беларусь аўтаноміяй у складзе дэмакратычнай Расіі.

Бясспрэчны факт, што ідэя склікання кангрэса і характар мяркуемых рашэнняў былі ўзгоднены з вышэйшай нямецкай уладай. Нямецкае кіраўніцтва бачыла ў скліканні кангрэса і для сябе пэўныя выгады: яно, маўляў, не перашкаджае самавызначэнню Беларусі, паважае створаныя тут беларусамі дзяржаўныя інстытуты. Прадстаўнікі Генеральнага камісарыята Беларусі былі ганаровымі гасцямі з"езда. У адпаведнасці з прынятым нацыянал-сацыялістычным рытуалам была паслана прывітальная тэлеграма ў Стаўку "правадыру Вялікай Нямеччыны Адольфу Гітлеру" з запэўніваннямі ў вернасці саюзу ў барацьбе з бальшавікамі.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

# ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ

**(Валерый УРУБЛЕЎСКІ)**

СЯРОД сыноў Беларусі, якія адважна і паслядоўна змагаліся за ідэалы свабоды на радзіме і за яе межамі, адметнае месца займае Валерый Урублеўскі. Прыроджаны рэвалюцыянер, бліжэйшы паплечнік Каліноўскага, адзін з выдаўцоў "Мужыцкай праўды", прычынены да беларускага Адраджэння канца 50-х -- пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя, апынуўшыся ў эміграцыі, ён панёс далей высокія ідэі сацыяльнага і нацыянальнага разнявалення народаў, праславіўся на ўвесь свет як генерал Парыжскай камуны.

Феномен Урублеўскага будзе заўсёды для нас прыцягальным, гісторыкі і пісьменнікі будуць не раз рабіць спробы пранікнуць у таямніцы яго жыцця.

Нарадзіўся Валерый 15 (27) снежня 1836 года ў Жалудку (цяпер Шчучынскі раён) у сям'і небагатага шляхціца, які служыў лясмічым (пасля скарбнікам) у магнатаў Тызенгаўзаў.

Пасля смерці бацькі сям'я пераехала ў Вільню, дзе Валерый вучыўся ў Дваранскім інстытуце (навучальная ўстанова накшталт гімназіі). У сям'і былі трывалыя традыцыі далучанасці да перадавых ідэй часу, да народнай культуры.

Моцна падзейнічаў на Валерыя, надоўга застаўся ў памяці арышт у 1849 годзе дзядзькі Яўстахія, які вучыўся ў Харкаўскім універсітэце і разам са сваімі таварышамі прыехаў у Вільню на канікулы.

Сямейная традыцыя звязвае Яўстахія з вядомым украінскім Кірыла-Мяфодзіеўскім таварыствам, да якога належаў Тарас Шаўчэнка. Улады абвінавацілі Я. Урублеўскага і яго таварышаў у спробе стварыць у Вільні канспірацыю, каб памагчы венгерскім паўстанцам. Як відаць са следчых дакументаў, студэнты лічылі, што паўстанне ў краі павінна абапірацца на сялянскія масы, толькі тады яно можа разлічваць на поспех. Яўстахій гаварыў на тайных сходах, што "тутэйшы люд, так моцна прыгнечаны сваімі панамі, мог бы быць вельмі ахвочым да бунту". Расказваў, што ездзіў па вёсках і вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод сялян. Студэнты спявалі беларускія і ўкраінскія народныя песні, а Яўстахій "прадэкламаваў аднойчы на народным дыялекце вершаваную адозву да сялян" (што гэта за верш, на жаль, дакладна невядома).

Знаёмячыся са справай Яўстахія Урублеўскага, мы са здзіўленнем знаходзім, што яго погляды нечым вельмі блізкія да будучых рэвалюцыйна-дэмакратычных перакананняў Валерыя.

У 1853 годзе, закончыўшы школьную адукацыю, Валерый разам з братам Станіславам адправіўся ў Пецярбург паступаць у Лясны інстытут. Адбіўся, відаць, уплыў бацькі, які доўгі час праслужыў лясмічым, дзіцячае і юнацкае замілаванне цудоўнымі пушчамі Беларусі.

Пецярбургскі інстытут быў ваенізаванай вышэйшай навучальнай установай, якая рыхтавала афіцэраў ляснога ведамства і інжынераў-тапографаў. У спісах лясной роты інстытута з'явіліся Урублеўскі-першы і Урублеўскі-другі (так афіцыйна па-вайсковаму сталі называць братоў).

Побач з іншымі спецыяльнымі і агульнаадукацыйнымі навукамі ў інстытуце выкладаліся і асобныя ваенныя дысцыпліны прыкладнога характару. Валерый з захапленнем займаўся фехтаваннем і стральбой, нібыта прадбачыў, як спатрэбяцца яму ў будучыні гэтыя навыкі.

Яго навучанне ў Пецярбургу супала з важнымі падзеямі ў гісторыі народаў Расіі. Ганебнае паражэнне царызму ў Крымскай вайне, смерць ненавіснага Мікалая I выклікалі ажыўленне грамадскага руху. Усе чакалі і патрабавалі карэнных перамен. Тое, у чым людзі ўчора баяліся прызнацца нават сабе, сёння адкрыта выносілася на шырокае абмеркаванне. Наспяваў крызіс, які ў канцы 50-х -- пачатку 60-х гадоў выліўся ў рэвалюцыйную сітуацыю. Нават сам урад вымушаны быў узняць пытанне пра скасаванне прыгоннага права.

Асабліва жыва ўспрымалі перадавыя ідэі моладзь, студэнты. Свежы вецер эпохі ўрываецца ў аўдыторыі Лясного інстытута, дзе вучыўся Урублеўскі. Адным з выкладчыкаў там быў вядомы рэвалюцыянер-дэмакрат Мікалай Васільевіч Шалгуноў, які пазней з душэўным хваляваннем успамінаў гэты перыяд: "Трэба было жыць у той час, каб зразумець радаснае захапленне "новых людзей", нібыта неба адкрылася над імі, нібыта ў кожнага зваліўся з грудзей пудовы камень, кудысьці пацягнуліся ўгору, ушыр, захацелася лятаць..."

Руская рэвалюцыйная дэмакратыя за ўсімі народамі прызнавала права на самавызначэнне. Гэта стварала аснову для рэвалюцыйнага саюза народаў у барацьбе супраць царызму. Асобае значэнне ў гэты перыяд меў руска-польскі рэвалюцыйны саюз (ён ахопліваў таксама і дзеячаў Беларусі -- Літвы). І саюз гэты здзяйсняўся на справе. Ніколі яшчэ дагэтуль з такой сілай не гучаў даўні дэвіз рэвалюцыянераў: "За нашу і вашу свабоду!"

У 1857 годзе, скончыўшы інстытут, Валерый атрымаў прызначэнне ў Саколку на захадзе Гродзенскай губерні (цяпер у межах Польшчы).

Пісарска-егерскае вучылішча, дзе ён меўся працаваць памочнікам начальніка, было адкрыта незадоўга перад гэтым для падрыхтоўкі лясных аб'ездчыкаў і егераў, а таксама сельскіх пісараў. У вучылішча прымаліся сыны дзяржаўных (г. зн. непрыгонных) сялян з Беларусі і Літвы. Саколку выбралі месцам для школы не выпадкова: старана была лясная, вакол шумелі векавымі дрэвамі славутыя пушчы.

З Саколкі робяцца паездкі ў суседнія Гродна і Беласток, а таксама ў Вільню, дзе жыў дзядзька Яўстахій, які акурат у гэты час вярнуўся з Сібіры. Паводле слоў вядомага віленскага адваката і культурнага дзеяча Тадэвуша Урублеўскага (сына Яўстахія і дваюраднага брата Валерыя), Валерый сустракаў у дзядзькавым доме паэта Уладзіслава Сыракомлю, рэвалюцыйных дэмакратаў Зыгмунта Серакоўскага, Кастуся Каліноўскага і іншых вядомых тагачасных дзеячаў.

Ветэран рэвалюцыйнага руху Апалін Гафмейстар, які яшчэ ў 40-х гадах пакаштаваў царскай ссылкі, паказваў пазней у следчай камісіі: "Урублеўскага я бачыў першы раз у Саколцы, калі ён толькі што быў выпушчаны з корпуса ляснічых (Ляснога інстытута) і пражываў у адным доме са сваякамі маімі Гутоўскімі пры Егерскім вучылішчы. Гэта было ў 1857 годзе... Урублеўскі любіў усё палка, страсна, пры гэтым захапляўся музыкай, кожнай карцінай, і таму называю яго энтузіястам". У даным выпадку сустрэліся, прыглядаліся адно да аднаго розныя пакаленні. Мажліва, энтузіяст-прапаршчык і асцярожны пасля нядаўняй ссылкі Гафмейстар не адразу сталі гаварыць пра самае патаемнае.

Больш адкрытым Урублеўскі быў, відаць, з маладым чыноўнікам Эразмам Заблоцкім, які пазней таксама стаў адным з кіруючых дзеячаў паўстання на Гродзеншчыне. На следстве Заблоцкі расказваў: "У 1859 або 1860 годзе, добра не помню, я быў на водах у Друскеніках, там пазнаёміўся з Валерыянам Урублеўскім, былым інспектарам егерскага вучылішча ў Саколках. Тады яшчэ я мог заўважыць, што ён чалавек страсны і з рэвалюцыйным поглядам..."

Як бачым, калі верыць Заблоцкаму, Урублеўскі ўжо ў канцы 50-х гадоў вылучаўся сваёй рэвалюцыйнасцю. Варта ўспомніць і пазнейшае сведчанне самога Урублеўскага, які ў 1869 годзе казаў: "Я дэмакрат па панящцях, па духу, рэвалюцыйны радыкал па крыві, па свайму мінуламу, па дзейнасці яшчэ да паўстання..." Выходзіць, Валерый адносіў фарміраванне сваіх радыкальных поглядаў да вельмі ранняга перыяду.

Службовае становішча Урублеўскага было ідэальным для рэвалюцыйнай работы. Сялянскія падлеткі, што навучаліся ў егерскім вучылішчы, разам са школьнымі ведамі атрымлівалі ад Урублеўскага зерні "крамольных" ідэй. Потым, скончыўшы навуку, юнакі раз'язджаліся па месцах прызначэння, і Валерый меў адданых сяброў і памочнікаў у многіх глухіх кутках, у самай гушчы народа.

Да таго ж Саколка стаяла на вельмі важнай у стратэгічных адносінах магістралі -- Пецярбургска-Варшаўскай чыгунцы, якой рэвалюцыянеры надавалі ў сваіх планах велізарнае значэнне.

Яшчэ калі чыгунка толькі будавалася, Урублеўскі наладжваў сувязі з інжынерамі, што працавалі на будаўніцтве. Як правіла, гэта былі перадавыя людзі. Асаблівай энергіяй вылучаўся Браніслаў Шварцэ, сын эмігранта. Гэта быў палымяны рэвалюцыянер. Шкада, што ён не заўсёды разумеў спецыфіку краю.

Усё новыя і новыя звенні звязвалі Урублеўскага з лагерам рэвалюцыі. Ён упэўнена шукаў сваё месца сярод барацьбітоў.

Зразумела, усяго гэтага не ведалі царскія ўлады, начальства Урублеўскага. Наадварот, здаецца, яго цэняць як энергічнага і руплівага служаку. У красавіку 1861 года яму надаецца чарговы чын падпаручніка, са студзеня наступнага года ён поўны гаспадар у вучылішчы -- загадчык, выконвае абавязкі начальніка.

З вясны 1861 года падзеі на Гродзеншчыне, як і па ўсёй краіне, нарастаюць імкліва. Доўгачаканы маніфест аб скасаванні прыгоннага права не прынёс сялянству радасці. Нездаволеныя грабежніцкімі ўмовамі рэформы, сяляне паўсюдна бунтуюцца.

Адначасова ў Польшчы пачынаецца новы ўздым нацыянальна-вызваленчага руху. Па загаду ўлад салдаты расстрэльваюць бяззбройную дэманстрацыю ў Варшаве. Маніфестацыйны рух перакідваецца ў гарады Літвы і Беларусі. Мітынгі пратэсту супраць злачынстваў царскага ўрада ў Польшчы адбываюцца ў Пецярбургу і Маскве.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**[Працяг будзе].**

## ХРОНІКА МАБ

### "РЫЦАРУ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ"

Як ужо паведамлялася, у Полацкім дзяржаўным універсітэце, самым маладым у Беларусі, адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя "Вацлаў Ластоўскі --выдатны дзеяч беларускага Адраджэння", прысвечаная 110-й гадавіне з дня нараджэння пісьменніка, вучонага і дзяржаўнага дзеяча. З дакладамі на ёй выступілі звыш 30 навукоўцаў з Беларусі, Літвы, Польшчы і Расіі (у іх ліку былі і кіраўнікі нацыянальных асацыяцый беларусістаў).

18 лістапада канферэнцыя "Вацлаў Ластоўскі і яго асяроддзе" адбылася ў Вільнюсе. Наладзіла яе літоўская асацыяцыя беларусістаў на чале з Альмай Лапінскене. Ад Беларусі ў ёй прынялі ўдзел вядомыя навукоўцы Вінцук Вячорка, Анатоль Грыцкевіч і Людміла Хрышчановіч.

### ПАДАРУНКІ ДЛЯ МУЗЕЯ "БЕЛАРУСЫ Ў СЬВЕЦЕ"

Польскі гісторык Юльюш Бардах перадаў для будучага музея "Беларусы ў сьвеце" рукапіс ўспамінаў Людмілы Канчэўскай (1896--1976), жонкі дзеяча беларускага Адраджэння Ігната Канчэўскага (Ігната Абдзіраловіча). У сям"і захаваўся таксама экземпляр яго вядомай кніжкі "Адвечным шляхам", які быў далучаны да дзённіка. Перададзены таксама некаторыя сямейныя дакументы.

Былы прэзідэнт Польскай акадэміі навук гісторык Аляксандр Гейштар, чые бацькі паходзяць з Беларусі, падрыхтаваў для экспазіцыі свае аўтабіяграфічныя матэрыялы. У іх адлюстраваны дзіцячыя і юнацкія гады вядомага ў свеце вучонага, якія прайшлі ў ваколіцах Клецка.

А з Італіі ад сябра МАБ прафесара Сантэ Грачыёці прыйшла пасылка з 22 тамамі рымскага крыніцазнаўчага штогодніка, дзе падрабязна апісаны польскія, беларускія і літоўскія матэрыялы, што захоўваюцца ў архівах Ватыкана, Англіі, Даніі, Іспаніі і іншых краін.

### УДЗЕЛ У ПОЛЬСКІХ КАНФЕРЭНЦЫЯХ

У Варшаве прайшоў семінар "Культурны плюралізм у Цэнтральна-Усходняй Еўропе", арганізаваны Польскай камісіяй ЮНЕСКА і яе прэзідэнтам прафесарам Ежы Клачоўскім. З беларускага боку ў ім прыняў удзел прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс. Удзельнікі вырашылі падрыхтаваць даведнік-атлас культур гэтага рэгіёна, які ахоплівае 21 краіну.

Праблеме "Нацыянальная і рэлігійная самаідэнтыфікацыя, нацыянальныя і рэлігійныя меншасці ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе" была прысвечана канферэнцыя ў Любліне. З дакладамі на ёй выступілі сябры Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў з Мінска і Гродна Уладзімір Конан, Людміла Навуменка, Святлана Палуцкая і Святлана Сяльверстава.

### ДА 440-годдзя РЭФАРМАЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ

Беларускі эвангелічны рэфармацкі збор і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны арганізавалі ў Мінску Міжнародную навуковую канферэнцыю "440 год Рэфармацыі ў Беларусі". З дакладамі на ёй выступілі А.Баршчэўскі, Э.Іванец, Р.Ляшчынскі (Польшча), Ю.Лабынцаў (Расія), беларускія даследчыкі Г.Брэгер, А.Грыцкевіч, У.Казбярук, Л.Каладзінскі, М.Крукоўскі, Л.Ліпень, А.Мальдзіс, С.Падокшын, І.Саверчанка.

Пасля дыскусіі ўдзельнікі канферэнцыі прынялі "Падсумаванне", у якім гаворыцца: "Рэфармацыйны рух меў для Беларусі важнае гістарычнае значэнне, аказаў вялікі ўплыў на фармаванне нацыянальнай свядомасці беларусаў, развіццё беларускай культуры, шматмоўнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, куды тады ўваходзілі беларускія землі. Таму ўдзельнікі канферэнцыі лічаць неабходным працягваць вывучэнне Рэфармацыі ў Беларусі, выданне спадчыны яе выдатных прадстаўнікоў Сымона Буднага, Андрэя Валяна, Мікалая Радзівіла Чорнага, Васіля Цяпінскага і іншых, а таксама матэрыялаў самой канферэнцыі. Адначасова навуковая грамадскасць выказвае трывогу з той нагоды, што будынкі, звязаныя з рэфармацыйным рухам (Кухцічы, Варона і інш.), знаходзяцца ў руінах, заклікае да іх аднаўлення, як каштоўных помнікаў гісторыі і архітэктуры".

Удзельнікі канферэнцыі выязджалі ў Заслаўе, Кухцічы, дзе пачынаўся рэфармацкі рух у Беларусі.

### "МАЛЫМ АЙЧЫНАМ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА"

У Сэйнах (Польшча) дзейнічае фонд "Пагранічча – мастацтваў, культур, народаў" і аднайменны асяродак. З восені бягучага года ён пачаў выдаваць квартальнік "Краснагрудак" (так называецца старадаўняя сядзіба на польска-літоўскім пагранічччы). Часопіс прысвячаецца "народам, культурам, малым айчынам Цэнтральна-Усходняй Еўропы", куды, зразумела, уваходзіць і Беларусь. Таму ў першым нумары "Краснагрудка" нямала беларускіх матэрыялаў: вершы Уладзіміра Арлова (у арыгінале і перакладзе), артыкулы Сакрата Яновіча "Мая малая айчына", Станіслава Станкевіча "Сучасная беларуская паэзія" і Чэслава Сэнюха "Пан Тадэвуш" па-беларуску", хроніка "Беларускае жыццё", рэцэнзіі на мінскія выданні.

У бліжэйшы час "Пагранічча" ладзіць "Цэнтральнаеўрапейскі форум культуры", прысвечаны яўрэям і цыганам. Запрашэнне ўдзельнічаць у ім атрымаў і Міжнародны камітэт беларусістаў.

**Алеся БЕЛАВУСАВА,**
**рэферэнт Міжнароднага камітэта беларусістаў.**

## РЭПАРТАЖ З МІНСКАГА МАСТАЦКАГА ЛІЦЭЯ

# ЖЫВІ, БЕЛАРУСЬ!





Са складанымі пачуццямі сустракаюць бацькі сёмы дзень нараджэння свайго дзіцяці. Канешне, з радасцю: скончылася маленства, і ў гэтым годзе любімы сын ці дачка пойдзе першы раз у першы клас, але і з заміраннем сэрца: якой будзе школа, дзе яму вучыцца, ці добрыя там настаўнікі, змогуць гэтыя педагогі прыахвоціць дзіця да вучобы альбо, наадварот, адаб"юць жаданне спасцігаць навукі раз іназаўсёды. Пабываўшы днямі ў Мінскім мастацкім ліцэі, створаным на базе 26-й школы, зразумела: мне вельмі хацелася б, каб мой сын, калі падрасце, вучыўся менавіта тут. І справа не ў выдатна абсталяваных кабінетах і класах, вітражах на вокнах і выставах у холах і калідорах, а ў нейкім дзіўным адчуванні творчасці, якое прысутнічае тут ва ўсім і накладвае свой высакародны адбітак не толькі на працы вучняў, але і на іх паводзіны, твары, душы.

-- Ці магчыма гэта -- навучыць чалавека тварыць? -- запыталася я ў завуча па мастацкаму навучанню Яўгена Саковіча.

-- Можна, калі з дзяцінства развіваць яго здольнасці, адначасова навучаючы пэўным прыёмам і навыкам. Паглядзіце на гэта, -- і Яўген Мікалаевіч працягнуў мне невялікую разетку. -- Вельмі простая рэч, але як зграбна, з якой любоўю яна зроблена! Я ўпэўнены, што той, хто яе вылепіў, халтурыць не будзе ніколі, бо ўжо ведае цану прыгажосці, зробленай уласнымі рукамі. А калі чалавек прывыкае да акуратнасці і прыгажосці, то ўжо робіць так усё, да чаго даводзіцца прыкладваць рукі. Наша галоўная мэта --навучыць дзіця нестандартна мысліць. Вельмі часта ў звычайнай школе вучню, у якога не ўсё атрымліваецца, паўтараюць: ты нічога не ўмееш, ты няздара. Паступова ён пачынае ў гэта верыць сам і нават спроб не робіць нешта змяніць, нечага дасягнуць -- а навошта? Усё роўна нічога не атрымаецца. Нашы ж дзеці не баяцца зрабіць няправільна, не баяцца адступіць ад канонаў. А з пошукаў новага, незвычайнага і пачынаецца творчасць...

Так, у гэтай школе двоек не ставяць увогуле. Пяцёркі і чацвёркі -- калі ласка, а раптам нешта не атрымалася -- настаўнік проста прапануе выканаць заданне яшчэ раз. Робяць, і ахвотна, бо творчасць дысцыплінуе і адначасова дае адчуванне свабоды і незалежнасці.

У адрозненне ад звычайных школ, вучацца тут 12 гадоў. Першая ступень -- з І па 9 клас -- школа з мастацкім ухілам, 10--11--12 класы -- ліцэй пры Акадэміі мастацтваў, адзіная ў рэспубліцы навучальная ўстанова, якая рыхтуе да паступлення ў акадэмію. Тут можна атрымаць кваліфікацыю народнага майстра па кераміцы, саломцы, ткацтву ці кіраўніка студыі выяўленчага мастацтва. У аснове навучання -- народная творчасць.. Менавіта гэты напрамак, на думку Яўгена Саковіча, і дапамог школе і ліцэю выжыць. Ды і не толькі гэтай школе, а і ўсім, хто ў свой час узяў за аснову выхавання народныя традыцыі, пачаў вучобу ад самых каранёў нацыянальнага мастацтва, бо такія яго нязменныя рысы, як цеплыня, чысціня, дабрыня і любоў да зямлі сваёй і людзей, --яны агульначалавечыя і зразумелыя ўсім.

А потым мы прыйшлі ў музей ліцэя, і я, бадай, паўгадзіны хадзіла па невялікаму пакою з экспанатамі і ад захаплення і здзіўлення не магла нават слова сказаць. Таленавітыя дзеці з сучаснымі поглядамі на свет і мастацтва далучыліся да народных рамёстваў, і адбыўся цуд. Здаўна-давён вядомыя матэрыялы і матывы набылі ў іх руках новыя трактоўкі, непаўторныя формы, нетрадыцыйнае выкананне. Неяк пачалі наведвацца сюды ўжо сталыя народныя майстры, ды не проста так, паглядзець, а з фотаапаратамі. А што? Гатовыя ідэі, якія адразу ж можна ператварыць у жыццё, ды яшчэ лаўры вынаходніка атрымаць. Гэтую практыку ў ліцэі хутка спынілі. А вось замежныя госці, гавораць, ходзяць тут таксама, як і я, -- моўчкі і адкрыўшы рот ад здзіўлення. А потым просяць прадаць ці зрабіць на заказ саламяныя букеты ці керамічныя вазы...

Глядзела я на ўсю гэтую прыгажосць і думала: тут, і толькі тут, а не на плошчах і мітынгах разумееш: жыве Беларусь! Таму што пакуль нашы дзеці з такой радасцю, жаданнем і ўменнем падхопліваюць народныя традыцыі і надаюць ім новыя непаўторныя, сучасныя рысы, будзе жыць наша нацыянальнае мастацтва, а, значыць, і наша культура, а значыць -- і зямля наша, Беларусь.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: вучні мастацкага ліцэя; творы, зробленыя іх рукамі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



## ЮБІЛЕЙНЫ ВЕЧАР НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Расказваюць, што калі Масей Сяднёў завёз у Амерыку і паказаў Наталлі Арсенневай выдадзены ў Мінску зборнік эмігранцкай паэзіі "Туга па Радзіме", паэтка заплакала. "Нарэшце і я вярнулася на Бацькаўшчыну", -- сказала яна. Кніга пачынаецца вялікай падборкай вершаў розных гадоў Наталлі Арсенневай, і гэта першая вялікая публікацыя яе твораў у паваеннай Беларусі. Несумненна, творчасць паэткі будзе высока ацэнена яе нашчадкамі-землякамі, а пакуль усё яшчэ не скончаны спрэчкі вакол постаці неардынарнай жанчыны, выдатнай пясняркі беларускай зямлі.

На пачатку снежня ў мінскім Доме літаратара адбылася вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Наталлі Арсенневай. У вялікай зале, нягледзячы на пранізлівы холад, сабралася многа народу. Прыйшла моладзь і вядомыя пісьменнікі, вучоныя, людзі, якія ведаюць і любяць высокую паэзію. Міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, паэт і журналіст Леанід Пранчак, пісьменнік Барыс Сачанка, Марыя Міцкевіч, Рагнеда Грышкевіч -- людзі, якія сустракаліся з Наталляй Арсенневай у апошні час або размаўлялі з ёю па тэлефоне, дзяліліся сваімі ўражаннямі і ўспамінамі, расказвалі пра Арсенневу -- чалавека, паэта, жанчыну. Сапраўднае задавальненне атрымалі аматары паэзіі ад вершаў юбіляркі, якіх многа прагучала ў гэты вечар у выкананні беларускіх артыстаў. Вёў вечар прафесар Алег Лойка.

**Д. Б.**

**Наталля АРСЕННЕВА**

## ШЧАСЦЕ

**Шчасце -- як сонца:**
**маленькая хмарка**
**пройдзе па небе ціхім**
**сярод дня, --**
**сонца ўжо свеціць**
**так жутла, няярка,**
**момант -- і сонца няма.**

**Шчасце -- як вішняў**
**вясняныя краскі:**
**вецер павее, заплача вясна, --**
**сыплюцца снегам на дол**
**яны гразкі,**
**момант -- і красак няма.**

**Шчасце -- як светлыя,**
**ясныя мары:**
**рэзкае слова, заўвага адна, --**
**і дагараюць яны у пажары,**
**момант -- і мараў няма.**

*Слонім. 1923.*

## МЭТА ЖЫЦЦЯ

**Мэта жыцця,**
**кажуць людзі без сілы,**
**мэта жыцця --**
**дачакацца магілы.**
**Як пражывеш ты,**
**сумленна ці не,**
**ці не ўсё роўна, --**
**бо смерць не міне.**
**Мэта жыцця,**
**кажуць поўныя сілы,**
**з доляй змагацца**
**да самай магілы,**
**веры не траціць**
**і страху не мець,**
**смела, байцамі памерці,**
**згарэць.**
**Мэта жыцця яшчэ, кажуць,**
**не йрвацца**
**ў неба, а толькі зямлі**
**прыглядацца.**
**Зведаць грахі ўсе,**
**ўсяго спрабаваць,**
**каб не так горка**
**было паміраць,**
**Мэта жыцця, ўрэшце**
**кажуць,**
**хавацца**
**з сэрцам ад смуткаў,**
**з слязіма не знацца.**
**Думкі аб праўдзе! Дурное --**
**і ўсё!**
**Мэта жыцця --**
**захаваць жыццё!**

*Слонім, 1922.*



СПАДЧЫНА

# СМАЛЯНЫ

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ)

### СПРАВЫ КАСЦЕЛЬНЫЯ

Паўстанне 1831 года азвалася ў Смалянах закрыццём дамініканскага кляштара. Белыя ксяндзы па загаду расейскіх уладаў вымушаны былі пакінуць мястэчка.

Побач з мураваным касцёлам слыннай фундацыі князя Гераніма Сангушкі яшчэ к пачатку XIX стагоддзя манахі ўзвялі сваім коштам мураваны аднапавярховы кляштарны корпус з келлямі, сталовай ды кухняй, які крытым пераходам злучаўся з касцёлам. Побач пабудавалі стайню, свіран і лядоўню, а таксама разбілі агарод, адмежаваўшы парканам свае ўладанні ад вуліцы ды "садоў мяшчанскіх". Дамініканцы старанна даглядалі невялікія могілкі, што размяшчаліся з фронта касцёла, адпраўлялі літаніі за душы памерлых. Як тое было амаль пры кожным дамініканскім кляштары Рускай і Літоўскай правінцый ордэна, смалянскія манахі ўтрымлівалі невялікую парафіяльную школку. Збіралася ў яе на зіму да дзесяці навучэнцаў, якія пад кіраўніцтвам касцельнага прапаведніка вучыліся пачаткам чытання, пісання ды катэхізму. На жаль, пры кляштары не было добрай бібліятэкі. Паводле звестак візітацыі 1805 года, уся касцельная бібліятэка складалася з васьмі кніг дрэннай захаванасці.

Пэўны час пры Смалянскім кляштары дзейнічала Ружанцовае брацтва, якое складалася са свецкіх асобаў і займалася справамі, што тычыліся пераважна пытанняў рэлігійнай філантропіі. Дамініканцы таксама адчынілі шпіталь, у якім жабракі, састарэлыя, хворыя і сіроты маглі атрымаць дах над галавой, харчаванне, дагляд ды лячэнне. Шпіталь не меў асобнага фундуша і размяшчаўся ў доме, што належаў "замку Смалянскаму" і стаяў праз вуліцу насупраць касцёла.

Руплівае вядзенне фальваркавай гаспадаркі дастаўляла манахам асноўныя сродкі да існавання і ўтрымання кляштара. У фальварках разводзілі хатнюю жывёлу, сеялі збожжа, садзілі гародніну і г.д. Не апошняе месца ў структуры даходаў айцоў-дамініканцаў займалі грашовыя ахвяраванні добрасумленных парафіян. Так, ксяндзамі было атрымана 300 злотых у 1680 годзе ад Андрэя Вышамірскага за часовае богамаленне, 500 злотых у 1690 годзе ад Хрыстафора Цяпінскага, 125 злотых у 1700 годзе ад Канстанцыі Вайніловічавай за пахаванне мужа, 300 талераў бітых у 1766 годзе ад аршанскага абывацеля Пётры Варапая. Гэтыя ды іншыя шаноўныя людзі такім чынам спрыялі фарміраванню фундушовага касцельнага капіталу.

У 1832 годзе Смалянскі дамініканскі кляштар зачынілі. Яго маёмасць ды капіталы былі апісаны, маёнткі перададзены ў казённае ведамства. Былы дамініканскі касцёл стаў парафіяльным, быў прыпісаны па штату да 5 класа і сілкаваўся невялікімі гадавымі датацыямі з дзяржаўнай скарбніцы, што далёка не спрыяла яго ўмацаванню і росквіту.

Сярод фальваркаў, засценкаў ды вёсак, у якіх жылі парафіяне Смалянскага касцёла, фальварак Кахачын нічым асаблівым не вылучаўся. У 1841 годзе пасля вяртання на Беларусь яго набыў славуты польскі паэт-рамантык Тамаш Зан. Праз 14 гадоў гэты чалавек знайшоў свой апошні прытулак на Смалянскіх каталіцкіх могілках. З гэтае часіны Смаляны зрабіліся своеасаблівым месцам паломніцтва свядомай польскай інтэлігенцыі. Летам 1877 года ў мястэчка наведаўся мастак Напалеон Орда. Вынікам вандроўкі сталіся дзве акварэлі, што захоўваюцца зараз у Нацыянальным музеі ў Кракаве. На адной з іх быў намаляваны нагробак паэта, на другой -- выява мястэчка Смаляны з рэшткамі замка "Белы Ковель" ды былым дамініканскім касцёлам і кляштарам. Апошняя акварэль у стане саслужыць неацэннай вартасці службу рэстаўратарам Смалянскага касцёла, бо прадстаўляе першапачатковы вонкавы выгляд храма, чарцяжы якога да нашага часу не зберагліся.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**





**"І швец, і жнец, і на дудзе ігрэц", -- так кажуць пра загадчыка Зэльвенскага раённага аддзела культуры Віктара НАВАСАДА (на здымку). Чалавек гэты сапраўды неардынарны. І дайшоў ён да сваёй справы не адразу. Спачатку паступіў у інстытут замежных моў. Але, скончыўшы яго, прысвяціў сябе іншай справе. Да шчасця, бо менавіта на гэтым шляху праявіўся ў яго талент арганізатара ўсіх раённых святаў, збіральніка мясцовага фальклору, "сувязнога" паміж самадзейнымі мастацкімі калектывамі раёна і прафесіянальнымі артыстамі рэспублікі.**

**Віктар Эдуардавіч аказвае дапамогу мясцовым талентам. Ведае, у якой вёсцы жыве той ці іншы музыка-самавук, спявачка, арганізоўвае іх выступленні з канцэртамі мастацкай самадзейнасці па ўсім наваколлі.**

**Яшчэ адна характэрная рыса Віктара Навасада. У час сваіх вандровак па раёну ён вельмі хутка сыходзіцца з людзьмі: прыслухаецца да парад аднаго, другому і сам нешта параіць. Ці не таму ён заўжды жаданы госць у кожнай хаце Зэльвеншчыны!!**

**Фота Э.КАБЯКА.**

СПОРТ

ГАНДБОЛ. Вельмі складаная сітуацыя склалася ў групе, дзе выступае зборная Беларусі на адборачным турніры першынства Еўропы. Тры каманды рэальна прэтэндуюць на перамогу. Пакуль наперадзе гандбалісты нашай рэспублікі і Харватыі, якія набралі па 9 ачкоў. Акрамя гэтых каманд, на перамогу можа разлічваць і каманда Ісландыі.

ВАЛЕЙБОЛ. Тры беларускія каманды правялі гульні ў турнірах еўрапейскіх кубкаў: сталічны "Амкадор", "Гамяльчанка" з Гомеля і "Заходні Буг" з Брэста.

Найбольш удала выступілі мінчане. У Фінляндыі яны двойчы сустракаліся з мясцовым "Ваасанам". Лік гульняў -- 2:3 і 3:0. Гэта значыць, што "Амкадор" выйшаў у наступны круг спаборніцтваў. "Гамяльчанка" і "Заходні Буг" у першых сустрэчах прайгралі.

ФУТБОЛ. ФІФА назваў суддзяў, якія будуць абслугоўваць першынство свету, што пройдзе ў наступным годзе. На жаль, у гэтым спісе няма ніводнага прадстаўніка былога Саюза.

Затое мы можам парадавацца за беларускага арбітра Вадзіма Жука. З штаб-кватэры УЕФА яму прыйшло запрашэнне на збор у Італію, дзе будуць адабраны суддзі для абслугоўвання гульняў еўрапейскіх кубкаў.

КАНЬКІ. На розыгрышы Кубка свету шматразовы чэмпіён свету мінчанін Ігар Жалязоўскі заняў другое месца ў бегу на 1 500 метраў.

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. Беларуская спартсменка Вольга Юркіна заняла трэцяе месца на розыгрышы Кубка нямецкага гімнастычнага саюза (ДТБ) у практыкаваннях на брусах.

ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА. Дзве таварыскія сустрэчы правялі зборныя Беларусі і ЗША ў Мінску. Поспеху дамагліся нашы барцы.

А заакіянскія спартсмены перамаглі ў адкрытым розыгрышы Кубка Рэспублікі Беларусь. У фінале амерыканцы выйгралі ў зборнай Магілёўскай вобласці.


**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**





**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1751. Падпісана да друку 13. 12. 1993 г.**